ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

17 СТУДЗЕНЯ 2003 г. № 3/4189 КОШТ 500 РУБ.



*Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ:*

**"Упэўнена, што не можа народ сам падсякаць свае карані, таптаць усё, што было блізка яго папярэднікам..."**


5



**Пры газеце "Літаратура і мастацтва" створана літаб'яднанне "Літаратурны квартал". Плён яго пасяджэнняў вы можаце ўбачыць на стар.**


13

**ДЫЯЛОГІ**

# АПЛАДЫСМЕНТЫ. ВІДОВІШЧАМ ТВОРАМ І...



*Кадр з кінафільма "Легенда пра Анастасію Слуцкую"*

*Сёння становішча ў сістэме сталічнага кінапракату змянілася, ён ўдасканалены ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі. А многія кінатэатры, напрыклад, "Кастрычнік", "Масква", "Бярэсце", "Мір" — прывыклі да аншлагаў.*

**Працяг тэмы на стар.**


4

# СУСТРЭЧЫ З КАРАТКЕВІЧАМ

*Уладзімір Караткевіч меў багата сяброў. У сямейных архівах многіх з іх захоўваюцца лісты ад пісьменніка, якія маюць не толькі прыватнае значэнне, але і грамадскае гучанне. Уладзімір Караткевіч цудоўна маляваў, валодаў майстэрствам фатографа, у чым вы можаце сёння пераканацца, упершыню пазнаёміўшыся з публікацыямі на стар.*


14-15



## КОЛА ДЗЁН

**Нарэшце закончыліся навагоднія і калядныя святы. Можна спакойна агледзецца навокал, яшчэ раз асэнсаваць тое, што было ў 2002 годзе і ўзяцца па-сур'ёзнаму за справы. А іх у нас хапае. Тым больш, што яшчэ да вясны далекавата.**

### *СПЫНЕННЕ ТЫДНЯ*

З 1 студзеня 2003 года спынены выпуск у абарачэнне білетаў Нацыянальнага банка Беларусі вартасцю 1 рубель узору 2000 года. Падобны крок тлумачыцца немэтазгоднасцю далейшага выкарыстання 1 рубля ў сувязі з рашэннем Камісіі па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння пры Савеце Міністраў аб акругленні да 5 рублёў розьнічных цэн і тарыфаў. Да таго ж гэта рашэнне прынята з мэтай скарачэння расходаў на выраб "дробязі". Білеты нацыянальнага банка вартасцю 1 рубель узору 2000 года застаюцца ў абарачэнні да 1 красавіка 2003 года і абавязковыя да прыёму па намінальнай вартасці ў суме, кратнай 5 рублям, пры ўсіх відах плацяжоў на тэрыторыі нашай краіны.

### *ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

У мінулым годзе на валютным рынку нашай краіны ніякіх надзвычайных сітуацый не было. Дэвальвацыя афіцыйнага абменнага курса беларускага рубля праходзіла так, як гэта і прадугледжвалася "Асноўнымі напрамкамі грашова-крэдытнай палітыкі на 2002 год". Афіцыйны курс беларускага рубля на канец мінулага года быў у межах 1920-1945 рублёў за долар. У гэтым годзе курс рубля ў адносінах да долара, як плануецца, будзе знаходзіцца ў межах 2250-2350 рублёў за долар. Як канстатуюць спецыялісты, гэта крыху больш нізкія тэмпы дэвальвацыі, чым у мінулым годзе.

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Плошча сусветных лясоў за перыяд з 1990 года па 2000 год, згодна са статыстыкай, штогод змяншалася ў сярэднім на 9,4 мільёна гектараў. Лічбы страшныя, але на іх можна глядзець весялей, калі ведаць, што ў перыяд з 1980 па 1990 год гэты працэс быў яшчэ больш істотны — 15 мільёнаў гектараў у год. Наша ж краіна за апошнія 10 гадоў павялічыла сваю лясістасць на 3 працэнты. Біямаса за гэты перыяд у Беларусі павялічылася больш чым на 40 працэнтаў і дасягнула амаль 1 мільярда тон.

### *СПАДЧЫНА ТЫДНЯ*

У Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА плануе ўключыць Аўгустоўскі канал, які размешчаны прыблізна за 30 кіламетраў ад Гродна. Цяпер на тэрыторыі нашай краіны знаходзяцца два аб'екты са Спісу ЮНЕСКА — Белавежская пушча і Мірскі замак. Аўгустоўскі канал пабудаваны ў 1824—1839 гадах для злучэння ракі Нёман з басейнам Віслы. Ён праходзіць па тэрыторыі Беларусі і Польшчы і з'яўляецца унікальным помнікам прыроды, гісторыі, тэхнікі і турызму.

### *ЛЕПШЫЯ ТЫДНЯ*

Нацыянальны алімпійскі камітэт падвёў вынікі конкурсу па вызначэнні дзесяці лепшых спартсменаў Беларусі 2002 года. Каб вызначыць дзесятку лепшых, было апытана 85 спартыўных журналістаў нашай краіны. Большасць з іх лепшым спартсменам-2002 назвалі бронзавага прызёра Алімпійскіх гульняў у Солт-Лейк-Сіці фрыстайліста Аляксея Грышыка, а сярод жанчын — чатырохразовую чэмпіёнку свету веласіпедыстку Наталлю Цылінскую. Трэцяе месца заняў дзюдаіст Анатоль Ларукоў, велагоншчыца Зінаіда Стагурская — чацвёртае, тэнісіст Максім Мірны — пяты, гімнаст Іван Іванкоў — шосты, канькабежка Анжэла Кацюга — сёмая, прадстаўніца акадэмічнага веславання Кацярына Карстэн — восьмая, лёгкаатлетка Наталля Сазановіч — дзявятая і баксёр Хавата Хацыгаў — дзясяты.

### *ВЫДАННІ ТЫДНЯ*

На 1 студзеня 2003 года ў нашай краіне было зарэгістравана 1355 перыядычных выданняў. Сярод зарэгістраваных — 851 газета і 435 часопісаў, 56 бюлетэняў, 3 каталогі і 2 альманахі. Большасць выданняў рускамоўныя. Іх 481. Цалкам беларускамоўных — 119. Вялікая колькасць выданняў выходзіць на дзвюх мовах адначасова.

### *АПТЭКА ТЫДНЯ*

У Гродне на базе гарадской аптэкі № 2 прадпрыемства "БіяТэст" ствараецца першая ў нашай краіне пастаянна дзеючая экспазіцыя "Аптэка-музей". Да адкрыцця унікальнай экспазіцыі будзе працаваць часовая выстава, створаная яшчэ ў 1996 годзе. У яе фондах сабрана больш 1000 экспанатаў, што датуюцца пачаткам 18 стагоддзя.

**ВІНШУЕМ!**

# ПРЭЗІДЭНТ СУСТРЭЎСЯ СА СТАРШЫНЁЙ ЛІТФОНДУ

***Напрыканцы мінулага года ў Доме літаратара адбыўся агульны Сход грамадскага аб'яднання "Беларускі літаратурны фонд", на якім было абрана яго новае кіраўніцтва. Узначаліў Літфонд пісьменнік, старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу па міжнародных пытаннях і Нацыянальнай бяспецы Мікалай Чаргінец. З выбраннем Мікалая Іванавіча на гэтую высокую, адказную і, на сённяшні дзень, нялёгкую пасаду ў многіх пісьменнікаў з'явілася надзея, што справы ў Літфондзе зменяцца ў лепшы бок. Не прайшло і месяца, як надзея стала паціху ажыццяўляцца. І самае галоўнае — на мінулым тыдні адбылася сустрэча старшыні "Беларускага літаратурнага фонду" Мікалая Чаргінца і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Каб даведацца, пра што ішла гаворка, мы звярнуліся з пытаннем да Мікалая Іванавіча Чаргінца.***

**Мікалай Чаргінец:**

— На гэтай сустрэчы я яшчэ раз пераканаўся, што памыляюцца тыя пісьменнікі, якія сцвярджаюць, быццам Прэзідэнт нашай краіны не хоча займацца праблемамі, якія тычацца СБП. Аляксандр Рыгоравіч адразу ж запытаўся: "Што сёння трэба зрабіць для пісьменнікаў, каб яны і далей плённа працавалі на карысць Беларусі?" Я ж у сваю чаргу расказаў пра сітуацыю, якая склалася ў СБП і ў Літфондзе. Прэзідэнт, пачуўшы, што Дом творчасці "Іслач" знаходзіцца ў заняпадзе, што дзверы забітыя дошкамі, а працуюць толькі дырэктар, бухгалтар і два вартаўнікі, пацікавіўся: "На чыім балансе знаходзіцца Дом творчасці "Іслач"? "На балансе "Літфонду" — адказаў я. І тут жа Прэзідэнт зрабіў шэраг даручэнняў адказным асобам, якія павінны разабрацца з праблемамі, каб ажывіць дзейнасць Дома творчасці і самога Літфонду. Я расказаў Прэзідэнту і пра стан спраў у СБП і пра яго новае кіраўніцтва, якое вяртае пісьменніцкую арганізацыю ў нармальны творчы працэс. Перад сустрэчай на вышэйшым узроўні былі перамовы паміж кіраўніцтвам Літфонда і Саюза беларускіх пісьменнікаў. На сёння Літфонд і Саюз пісьменнікаў ідуць адным фронтам, адной сям'ёй. На сустрэчы з Прэзідэнтам закраналіся пытанні як матэрыяльнага становішча членаў Літфонду, так і членаў СБП, падзелу няма і быць не можа. Заканчваючы размову Прэзідэнт адзначыў, што наш народ мае права чакаць ад пісьменнікаў новых яркіх твораў, якія праслаўляюць наш народ і нашу краіну. Настаў час сур'ёзна адраджаць маральнасць, культуру, выхоўваць у духу патрыятызму новыя пакаленні, пра што забываюцца некаторыя пісьменнікі.

Не трэба забывацца пісьменнікам і пра тое, што мы жывём у час рыначных адносін, і гэта вымагае ад усіх нас больш клапаціцца самім пра свой дабрабыт, а не спадзявацца толькі на дзяржаву. Дзяржава падтрымлівала, падтрымлівае і будзе падтрымліваць пісьменніцкія справы, якія прыносяць карысць нашаму народу і Беларусі. Аляксандр Рыгоравіч выказаў сваю згоду сустрэцца з пісьменнікамі і пагаварыць пра надзённыя праблемы, якія існуюць у іх творчым жыцці.

# ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЗА СЭРЦАМІ ГЛЕДАЧОЎ



Юбілейную вечарыну, прысвечаную свайму 70-годдзю, Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага ладзіў напрыканцы снежня. Свята тэатра — гэта перш за ўсё свята відачнаў, таму першымі на сцэне і з'явіліся акцёры. З лёгкага подыху аднаго з іх — "міма" ў чорным — запуналі ўрыўкі з вядомых спектакляў тэатра: "Адзінокі спадкаемца", "Тэрмінова патрабуецца "самазабойца..."", "Свабодны шлюб", "Бедны, бедны, тата!..", "Трагічная аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага", "Сон на кургане" (гэты спектакль пастаўлены Б. Луцэнкам разам з маладымі акцёрамі ягонай студыі "Шынок", адзінай па сённяшнім часе студыі ў Мінску, арганізаванай пры тэатры ),"Ваўкі і авечкі", "У прыцемках", "Калігула". У прасторы сцэны файна спляліся сцэнічныя ўрыўкі, у якіх перад вачыма публікі пранеслася не толькі гісторыя разнастайнай афішы тэатра, а ўвогуле жыцця, напоўненага нянавісцю, каханнем, салодкімі надзеямі і прыкрымі расчараваннямі...

Пасля такога своеасаблівага "папуры" са спектакляў уся трупа тэатра выйшла на сцэну. На "авансцэне" з крэслаў сядзелі, вядома, самыя знаныя з акцёраў: А. Клімава, Р. Янкоўскі, З. Шах-Парон, З. Асмалоўская, Ю. Сідараў, Б. Масумян, А. Ткачонак, В. Клебановіч, С. Кузьміна, А. Корчыкаў, І. Мацкевіч і іншыя цудоўныя акцёры. Віншавальны адрас ад А. Лукашэнкі зачытаў памочнік Прэзідэнта РБ, начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта РБ І. Карэнда, якім высакародна былі названы "каралевай" сцэны актрыса А. Клімава, а "каралём" — Р. Янкоўскі, які сёння бліскуча грае ў новым спектаклі Б. Луцэнкі "Перад заходам сонца" паводле Г. Гаўптмана. Дарэчы, галоўны рэжысёр тэатра ўяўляецца І. Карэнду "паляўнічым за сэрцамі гледачоў". Тэатр імя М. Горкага павіншавалі таксама Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу РБ А. Вайтовіч (з яго рук ганаровую грамату "За заслугі ў развіцці заканадаўства..." атрымаў артыст Р. Янкоўскі), міністр культуры РБ Л. Гуляка (ганаровым знакам Мінкульта, заснаваным спецыяльным указам Прэзідэнта, была ўганаравана актрыса С. Кузьміна, ордэн Францыска Скарыны атрымаў дырэктар тэатра Э. Герасімовіч, а калектыў тэатра — Ганаровую грамату Савета Міністраў РБ), старшыня Мінгарвыканкама, мэр горада М. Паўлаў (Ганаровай граматай "За вялікае прафесійнае майстэрства..." быў узнагароджаны Б. Луцэнка), Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь А. Блахін.

Больш нефармальнай, вясёлай была, так бы мовіць, трэцяя частка юбілейнай вечарыны калі тэатр імя М. Горкага віншавалі таксама артысты, а гэта прадстаўнікі Міністэрства абароны (музыкі ў "форме" добра "распалілі" публіку ды акцёраў), Купалаўскі тэатр, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, Рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Тэатр-студыя кінаакцёра, Коласаўскі тэатр з Віцебска ў асобах акцёраў, Саюз тэатральных дзеячаў, Беларуская акадэмія мастацтваў.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

**РЭХА**

# А ЦІ НЕ ПАДУМАЦЬ ПРА ВЕЧНАЕ?

Супрацоўнікі штотыднёвіка "ЛіМ" ніколі не скардзіліся на недахоп матэрыялаў. Ды і цяпер ёсць у рэдакцыйным партфелі багата цікавага. Гэта радуе, праўда, ёсць і непрыемнае — аўтары вымушаны чакаць сваёй чаргі, каб надрукавацца. Адны чакаюць цярпліва, другія, на жаль, крыўдуюць... Прыкра, што да пакрыўджаных на "ЛіМ" цяпер далучыўся і народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Вядома, рана ці позна ўсё вартае чытацкай увагі, друкуецца. Была б надрукавана ў свой час і рэцэнзія Ніла Сымонавіча на кнігу Міхася Скоблы "Нашэсце поўні". На жаль, аўтар выкарыстаў свае права, не дачакаўшыся публікацыі, забраць свой рукапіс. І нядаўна рэцэнзія "Паэт, "завербаваны вербамі" з'явілася ў "Народнай волі". А пры публікацыі — каментар, у якім Ніл Сымонавіч піша, што ў "ЛіМе" яго эсэ друкаваць не дазволілі, пратрымалі тры месяцы і вярнулі.

Паўтаруся, гэта права аўтара выбіраць, дзе яму друкавацца, чакаць або не чакаць сваёй чаргі на публікацыю. Не трэба забывацца, што і ў рэдакцыі газет, часопісаў і выдавецтваў ніхто не забіраў права самім вырашаць, што, калі і ў якім выглядзе, не парушаючы аўтарскіх правоў, друкаваць.

Вядома, шлях на старонкі "ЛіМа" для Ніла Гілевіча быў яшчэ зусім нядаўна больш кароткім, чым для іншых, што чакалі сваёй публікацыі, часам нават гадамі. Аднак, нічога вечнага няма. І не трэба сёння крыўдаваць на выданне, якое спрабуе даць невялікую газетную плошчу па справядлівасці і просіць аўтара трохі пачакаць. Думаецца, ні адзін сапраўдны твор не нараджаецца для таго, каб праз некалькі месяцаў стаць неактуальным.

Сам Ніл Гілевіч не раз прамаўляў, што трэба думаць пра вечнае. Ці варта ў святле такіх думак бэсціць беларускамоўнае літаратурнае выданне, што жыве семдзесят год і на зло некаторым "добразычліўцам" будзе жыць далей і несці чытачам праз часовыя палітычныя, асабістаамбіцыйныя мітрэнгі, вечнае — нацыянальную літаратуру, якая ніколі не пакіне яго старонкі. І ці варта зноў і зноў некага праклінаць, ведаючы, што ў нас расце таленавітая моладзь, у якой не менш, чым у нас, старэйшых, баліць душа за родную мову і за Беларусь.

**Віктар ШНІП, галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацва"**

# ПРАВІНЦЫЯ — ГЭТА СТАН ДУШЫ...

Кажуць, адзінае, чаго нельга адняць у чалавека — яго лёсу. Але ж... Тое знішчана, гэта прададзена, альбо акуратненька прычасана, прыстасавана да пэўных умоў існавання. Знішчаюцца крытэрыі маральнасці, якія мы засвойвалі, як кажуць, з малаком маці... І вось мы, як босыя на вогнішчы, курчымся, стогнем, енчым, і ўсё нерашуча топчамся па гарачым прысаку. І ўжо з нас смяюцца, пацяшаюцца — каму не лянота. Мабыць, ёсць за што: мы ж — талерантныя. І пра нас, беларусаў, ужо складаюць анекдоты, чаго раней, здаецца, не было. Носімся мы са сваёю талерантнасцю, як той з пісаной торбай. І — вось дзіва! — ганарымся ёю. Іншы раз, здаецца, толькі мы можам ганарыцца тым, што для іншых — ганьба!

І не спяшаемся нешта мяняць у сваім жыцці. А куды нам спяшацца? Патрываем яшчэ, агледзімся, памяркуем. Мы ж — талерантныя...

Многага вартага мы адцураліся, на многае добрае забыліся. Мы неяк спакойна ставімся да таго, што зараз нямала хто спрабуе вытруціць з чалавека душу.

Памятаеце, "спачатку было слова", а потым... потым прыйшоў тэлевізар. І не бяда, бо тэлевізар — таксама слова, якое можна пачуць і нават убачыць. Бяда, што, як мне бачыцца, наступае эпоха сапраўднага невуцтва і цемрашальства. Праз той жа тэлевізар. Многім спадабалася — не чытаць кніжкі, над якімі трэба думаць і разважаць, не глядзець кінафільмы, акрамя тых, якія я заву фільмамі для дэбілаў. Многім спадабалася не думаць... Так лягчэй, так лацвей жыць. Тым болей, што той жа тэлевізар, а часам і жыццё апошнім часам вучаць: каб заможна жыць, не трэба многа думаць, дастаткова быць нахабным, настырным, крывадушным.

І вось ужо не слова — Бог, а маўчанне — золата. І мы, пісьменнікі, аказалася, як след не запатрабаваныя сваім жа народам. І само слова "пісьменнік" сёння ўжо гучыць неяк няпэўна. Чаму так? І хто вінаваты? І што рабіць?

Выбачайце, зараз я скажу нешта крыўднае, непапулярнае, а для кагосьці з калег, мо, і абразлівае. Ва ўсім гэтым вінаваты і вельмі... мы самі, пісьменнікі. У першую чаргу... Ах, нам не даюць магчымасці друкаваць нашы бессмяротныя творы і не плацяць за іх такія ганарары, на якія б мы бязбедна маглі сядзець на сталічным Парнасе і настальгаваць па родных вёсачках, з якіх мы абачліва паўцякалі, фактычна здрадзіўшы ім. Скажыце, хто са сталічных літаратараў, напрыклад, маіх гадоў, ды і старэйшых, не енчыць, або не енчыў па бацькоўскай пакінутай хаце, дзе ў печы агмень не гарыць?

Дык што гэта — поза пакрыўджанага, даніна модзе, альбо звычайнае крывадушша? І разам з тым у сталіцы нярэдка пачуеш: няўжо да гэтых калгаснікаў ды пенсіянераў яшчэ не даходзіць?.. Уявіце сабе, можа, і не даходзіць, можа, няма каму данесці...Але пад ляжачы камень вада не цячэ. Сёння мала хто са сталічных літаратараў бярэ білет за свой кошт ды едзе ў вёску, у сельскую бібліятэку пагаварыць з тым самым "несвядомым" электаратам пра жыццё і пра літаратуру. А яны, "несвядомыя", вунь як чакаюць нас. Яны, між іншым, за ўсё жыццё, можа, ніводнага жывога пісьменніка не бачылі. І дзе яны яго ўбачаць? Хіба на БТ? Купіце білет, едзьце ў вёску, распаліце агмень у сваёй бацькоўскай хаце, калі там яшчэ печ не разваліласяся, выйдзіце на вуліцу, пагутарце з суседзямі, з землякамі, а мо і паспавядайцеся ім, бо награшылі. Але ж не... Кінуўся беларускі пісьменнік у горад, забраў з сабою ў торбу родную мову, звёз з вёскі інтэлект. А яны, ні мова, ні сапраўдны інтэлект, там, на асфальце, так і не прыжыліся. І стаіць пісьменнік на раздарожжы: свой сярод чужых, чужы сярод сваіх. Памятаеце, як было пры сацыялізме: у горад імкнулі тыя, хто баяўся цяжка працаваць, хто спаў і бачыў, як найхутчэй развітацца са сваім "калхозным" мінулым і "мужыцкай" моваю. Па-руску так і не загаварылі — падвяла "цяжолая наследственнасць" ды ўсё тая ж лянота. Спыніліся на паўдарозе, на той самай "трасянцы". Які ж тут інтэлект.

Тым часам у вёсцы засталіся так званыя "няўдачнікі", хто не такі спрытны, не паспеў да горада дабегчы. Абяскроўленая інтэлектуальна вёска збяднела, здрабнела, здзічэла, спілася з гора і перастала хоць нечым цікавіцца.

Я — з дзівакоў. Жыву ў бацькоўскай хаце, дзе пачуваю сябе даволі ўтульна. У роднай хаце, як ведаем, і дзіркі грэюць. Дзеля гэтых вось дзірак ахвяраваў гарадскім жыццём, працаю ў прэстыжных выданнях. Многія і ў вёсцы, дзе жыву, і ў райцэнтры, дзе працую, вядома ж, мяне не разумеюць, бо для іх вялікі горад — недасяжная мара. Для мяне ж гэта — пройдзены этап. Ад настальгіі не паміраю, няма часу: трэба капацца на градах, дбаць пра дровы, хадзіць па ваду. Трэба — пісаць і чытаць. Няўдачнікам сябе не адчуваю таксама. У вёсцы добра пішацца, вольна дыхаецца і думаецца. І потым, хто ёсць няўдачнік? Той, хто не здолеў рэалізавацца, каму не хапіла паслядоўнасці і прынцыповасці. Дык чаму няўдачнік я, а не вунь той-сёй з літаратараў, які дагэтуль быццам бы шчыра змагаўся за беларушчыну, падаўся працаваць у рускамоўнае выданне, дзе зараз цяплей і дзе болей плацяць, хаця яшчэ ўчора біў сябе ў грудзі, даказваючы, які ён патрыёт. А ўсё таму, што прынцыпы, на жаль, нямала ў каго з нашага брата, адны — для публікі, другія — для сябе. Не збіраючыся тут нікога папракаць, але, калі ўжо ты пішаш пра светлае, дык, напэўна, не шкодзіць перш за ўсё ў сваю душу зазірнуць.

Ніколі не быў радыкалам, ніколі не кідаўся ў крайнасці, дый руская мова ніколі не была для мяне чужой. У Расіі, а таксама ў іншых краінах былога Саюза жывуць мае колішнія армейскія сябры, якім я прысвяціў сваю першую кніжку. Дзеля іх, дарэчы, і сёння мару выпусціць тую кніжку яшчэ й на рускай мове. Вось дзе ў нас было сапраўднае інтэрнацыянальнае братэрства! Але ніводзін, паўтару, ніводзін з маіх армейскіх сяброў не верыў мне, калі я распавядаў, што многія мае землякі ў сябе на радзіме не ведаюць і не хочуць ведаць роднае мовы, больш таго, ненавідзяць яе, пагарджаюць ёю. У такое сапраўды цяжка, немагчыма паверыць. Дык вось, ніколі не кідаўся ў крайнасці, але, працуючы ў раённай газеце, міжволі стаў радыкалам, бо давялося адстойваць сваё права... пісаць па-беларуску. Колькіх мне гэтае права каштавала намаганняў ды высілкаў, аб гэтым памаўчу. Скажу толькі, што сёння мае беларускамоўныя публікацыі ў "раёнцы" літаральна растварающца ў рускамоўным вакууме. Вось яно, рэальнае двухмоўе. Асабліва яскрава атмасфера манкуртцтва, нацыянальнага нігілізму, агрэсіўна-ваяўнічае малапісьменнасці праяўляецца менавіта на ўзроўні маленькіх гарпасёлкаў, раённых і, скажу, нават абласных гарадоў. Манкурцтва часцей за ўсё бывае з кулакамі, яно скоўвае па руках і нагах любыя праявы нацыянальнай свядомасці, ваяўніча падступае да горла, стараецца ўдушыць. У такой гнятлівай атмасферы вельмі цяжка працуецца нам, беларускім пісьменнікам, у глыбінцы. Асабліва бездапаможным, прыніжаным адчуваеш сябе, калі з працягнутай рукой ходзіш, як Марка па пеклу, па прадпрыемствах ды арганізацыях, "збіраючы тыраж" для сваёй чарговай кніжкі, хаця кніжка мае быць выпушчана ў дзяржаўным выдавецтве.



Звысоку паглядваюць на цябе, "пісаку", мясцовыя кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, некаторыя ўсё ж ахвяруюць "милостину", кідаючы ў пісьменніцкую торбу гарантыйнае пісьмо. Цікава, што бяднейшыя ахвяруюць ахвотней. Багаты ж не ведае, чым бедны абедае. Ды вось новая бяда: выдавецтву ўжо не патрэбны тыя гарантыйныя пісьмы, яму падавай папярэдне гатовую дамову. А хто ж у наш час будзе папярэдне дамаўляцца пра нейкага там "ката ў мяху"? Такім чынам, сабраць тыраж для кніжкі становіцца справай больш чым праблематычнай, бадай, фантастычнай, але... рэальнай. Скажу больш, калі б яшчэ і кнігагандаль працаваў так, як самі аўтары, па распаўсюджванні беларускіх кніжак, з тыражамі не было б ніякіх праблемаў, а нашу друкаваную прадукцыю бачылі б не толькі ў Мінску, але і на перыферыі. Пакуль жа кнігагандаль ходзіць у "пафігістах", не бачыць правінцыі беларускамоўных выданняў, як сваёй патыліцы. А без літаратуры якая ж нацыянальная свядомасць?

Дарэчы, аб правінцыйнасці... У адрозненне ад "сталічнага бамонду", мы, літаратары з "глыбінкі", вельмі рэдка бачымся, сустракаемся. Яно і зразумела — жывем па вёсачках, па райцэнтрах, далёка адзін ад аднаго, дарогі перадзімае, транспарту бракуе, праезд да сталіцы дый вандроўкі розныя часцей не па нашай пісьменніцкай кішэні. Ды няма ліха без дабра, затое мы не дзелімся на "нашых" і "не нашых" — няма ні часу, ні магчымасці, ні, прызнацца, ахвоты гуляць у такія гульні. Але ж гэта зусім не азначае, што мы ў правінцыі не бачым, ці не разумеем сітуацыі. Хутчэй наадварот, адсюль, на адлегласці тая сітуацыя бачыцца яшчэ лепей. Прыкладам і доказам таму — апошні пісьменніцкі з'езд, сабраўшыся на які фактычна "правінцыя" расставіла ўсе кропкі над "і", здавалася б, прымірыла непрымірымых, астудзіла каторыя надта гарачыя галовы і, ад'язджаючы, наказвала:

— Толькі ж неператаўчыцеся тут, не дзяліцеся, як мнагаклетачныя, на варожыя групоўкі на той падставе, што нехта з вас меней, а нехта болей любіць Радзіму. Нам нельга зараз па-асобку, нам трэба захаваць наша адзінства, наш Саюз творчы. Бо сёньтой толькі й чакае, каб "пісакі" перабіліся, раз'ядналіся, аслабелі. Надта ж вялікую каштоўнасць спальваем мы на алтары міжусобных войнаў — гонар і годнасць нацыі, яе мову і літаратуру. Пісьменнікі б'юцца, а ў народа лоб трашчыць.

З'езд скончыўся, літаратурная правінцыя паехала працаваць, а на сталічным Парнасе па-ранейшаму нецікхоты: "нашы" выданні з "ненашымі" ледзь за чубы не хапаюцца. А мы хочам, каб слова "пісьменнік" у народзе з гонарам прамаўлялі. Дык тую павагу, шаноўнае спадарства, яшчэ заслужыць трэба. Мой знаёмы рэжысёр, які кіруе ў Лепелі дзіцячым тэатральным калектывам, збілася з ног у пошуках пастановачнага рэпертуару на беларускай мове. Сучасная беларуская драматургія проста не трапляе ў "глыбінку", а калі нешта і даходзіць, то недынамічнае, малаінфармацыйнае, зробленае наспех. Каб паставіць такую п'есу, рэжысёр павінен фактычна перапалапаціць яе. "Куды спяшаюцца сучасныя драматургі", — дзівіцца дзяўчына, — ці чытаюць яны ўвогуле класіку? І ці ёсць увогуле ў нас зараз драматургія?" "Вопрос, конечно, интересный". Мабыць, усё ж ёсць, але надрукаваць драматычны твор намнога цяжэй, чым прозу ці паэзію. Пра тыя ж п'есы, якія ў лепшыя часы паступалі на конкурс, што ладзіла Міністэрства культуры, ведае, мабыць, толькі само Міністэрства культуры. Бо далей абяцанкаў надрукаваць лепшыя з іх і паставіць у тэатрах справа не пайшла.

Такім чынам, правінцыя старанна шукае беларускую літаратуру і ніяк не можа знайсці яе. І вясковым настаўнікам, і рэжысёрам самадзейных калектываў, і проста інтэлігентным людзям, якія яшчэ не развучыліся чытаць (а такія пакуль што ёсць у "глыбінцы"), меней за ўсё цікава, пад якімі штандарамі б'юцца ў сталіцы пісьменнікі. Ім патрэбны таленавітыя раманы, аповесці, паэмы, вершы, п'есы. Калі мы зачыталіся ў школе сапраўднай беларускай літаратурай, то нічога не ведалі пра аўтараў, апрача хіба іх сціплых біяграфій са школьнага падручніка. Пісьменнік — гэта найперш яго творы, і яны, а не нашы амбіцыі, патрэбны чытачу, і яны, а не нашы звады, застануцца для вечнасці, калі ж толькі самі мы не страцім апошняга чытача.

А жывеш ты ў правінцыі ці ў сталіцы — якая, зрэшты, розніца! Усе мы пад Богам ходзім. Я часам памкнецяюся, што не Мінск ніякі, а мая родная вёска ёсць сталіца Беларусі, а можа, і цэнтр Сусвету. Правінцыя — паняцце не столькі геаграфічнае, колькі філасофскае. Бо гэта стан чалавечае душы.

Ну, а на другое адвечнае пытанне: што рабіць? — можна даць толькі адзін адказ — пісаць, спадары-таварышы. Пісаць і яшчэ раз пісаць. Для вечнасці ці для сябе, для тоўстай кніжкі ці проста ў стол — якая розніца. На тое ж і майстры прыгожага пісьменства. Правільна, "цесна, вузка, мала". Ды адзінае, чаго не адымеш у пісьменніка — яго лёсу...

**Уладзімір МІХНО**
**в. Чэрцы,**
**Лепельскі раён**

# АПЛАДЫСМЕНТЫ. ВІДОВІШЧАМ, ТВОРАМ І...

***Яшчэ нядаўна мінскія кінатэатры праводзілі кінасеансы ў паўпустых залах. Там было няўтульна, холадна, ды і якасць кінапаказу была кепская. Рэпертуар жа вызначалі амаль цалкам замежныя фільмы.***

***Сёння становішча ў сістэме сталічнага кінапракату змянілася: яно адроджана і ўдасканалена ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі. А многія кінатэатры, напрыклад, "Кастрычнік", "Масква", "Бярэсце", "Мір" — прывыклі да аншлагаў.***

***З гэтай нагоды гутару з генеральным дырэктарам унітарнага прадпрыемства "Кінавідэапракат" Мінгарвыканкама Васілём Пятровіча Коктышам.***

**Уладзімір САЛАМАХА**

***— Васіль Пятровіч! Працягваючы прадмову да нашай гутаркі, адразу ж, як кажуць, закранаю балючае: ды не так даўно амерыканскія фільмы запанілі ўсе кінатэатры. Вядома, увогуле ў амерыканскім, як і ўсялякім іншым кіно, хапае пошласці і антычалавечнасці, шмат проста пачварных карцін. Але ж колькі сапраўды высокамастацкіх твораў, шэдэўраў! Толькі нам паказвалася далёка не самае лепшае. Напрыклад, я, заўзяты кінааматар, як і многія іншыя, проста перастаў хадзіць у кінатэатры: вось такі глядацкі быў пратэст супраць бруду на экране...***

— Так, многія тады на кіно, як кажуць, паставілі крыж. Разумееш, крыж, як на галіне культуры, якая ў новых умовах гаспадарання нібыта не можа развівацца, якая наогул быццам і перспектывы не мае.

У краіне быў відэабум. Нашы гледачы пайшлі глядзець на відэа кіно. Заўваж, часта такое ж пошлае, як ты кажаш, а то і горшае, чым у кінатэатрах. Кінапаказам таксама актыўна занялося тэлебачанне. І наша, і расійскае, якое мы глядзім. Адтоку гледачоў з кінатэатраў садзейнічала не толькі тое, што мы паказвалі дрэнныя фільмы — добрыя дорага каштуюць, купіць не было за што — не толькі кепскі стан кінатэатраў, але і сама кінавытворчасць. Шуміха вакол усялякіх свабод, якія многія мастакі зразумелі, як свабоды на распаўсюджванне непрыстойнасці, пошласці, парнаграфіі, іншай брыдоты, разбураючай чалавечае ў чалавеку, садзейнічала з'яўленню і нашых самых кепскіх фільмаў. Спачатку іх прагна глядзелі: адкрылі забароненае. Потым такія стужкі проста перасталі запатрабавацца. Дарэчы, да гонару кінастудыі "Беларусьфільм", дык я не памятаю выпадку, каб нашы майстры экрана аддавалі перавагу пошласці. Наша студыя, калі ўжо так, якраз з прычыны фінансавых цяжкасцей, маючы ў сваім штаце шэраг слынных кінамайстроў, цэлы атрад па-сапраўднаму таленавітай творчай моладзі ў той час так і не магла стварыць ні аднаго запатрабаванага фільма тыпу "Белыя росы", "Чорная бяроза" або "Чорны замак Альшанскі", што маглі б канкурыраваць з тымі карцінамі, пра якія ты казаў.

Расійскія ж фільмы той пары, копіі якіх мы маглі купіць больш-менш танна, і куплялі, паказвалі жыццё горшым чым яно ёсць. Тады мы, каб хоць як працавалі кінатэатры, маглі купляць толькі тое, што нам прапаноўвалі — другараднае.

***— Значыць, вы, кінапракатчыкі, усё гэта бачылі, разумелі...***

— Так. І ў нас не было спакою. Як вярнуць гледача ў кінатэатры? Як вярнуць, перш за ўсё, дзіцячага гледача? Бо, скажам прама, духаразбуральныя працэсы ў мастацтве і літаратуры перш за ўсё ўздзейнічаюць на юных.

***— І трэба прызнаць, прабач, што перабіваю цябе, тут кінематограф і літаратура многага "дасягнулі". Напрыклад, кінематограф, тэлебачанне адлучылі за восем-дзесяць гадоў многіх нашых дзяцей ад народнай казкі, ад вобраза добрага чалавека, наогул ад паняцця дабрыні, спагады, звычайнай прыстойнасці.***

— Вядома ж... Так, тады самым горшым для нас было, што мы амаль страцілі юнага гледача. А вярнуць яго можна было, між іншым, як і дарослага, толькі ў прыстойныя кінатэатры, толькі на добрыя фільмы. Але ж на рамонт кінатэатраў, на набыццё годных кінакарцін у нас не было сваіх грошай. Лёгка было сказаць: зарабіце! Як, калі, скажам, 17 сталічных кінатэатраў — іх столькі ў нас — былі на мяжы разбурэння? І каб іх хоць як падтрымліваць, пачалі здаваць у арэнду.

Гэта было страшна ўсведамляць. Перш за ўсё ў маральным плане. Мы разумелі, што нешта змяніць можам толькі мы самі. Але калі нам дапамогуць. І вось аднойчы па ініцыятыве тагачаснага мэра горада Уладзіміра Васільевіча Ярмошына мы з ім наведалі ўсе кінатэатры. Жахлівы малюнак!.. Прызнаюся, калі пад'язджалі да гарвыканкама, я ўжо збіраўся пісаць заяву на звальненне. Але мяне спыніла яго пытанне, сказанае з болем у душы: "Няўжо нельга нічога зрабіць?"

Я сказаў банальнае, што да гэтага шмат дзе гаварыў: "Толькі на пачатак нам патрэбны зусім не вялікія ў памерах горада грошы. Але акрамя дзяржавы іх нам ніхто не дасць. Бо інвестары, калі і прыйдуць, то ў 2-3 лепшыя кінатэатры, але не для таго, каб развіваць усю кінасетку". І нам паверылі.

З гэтага і пачалося. За бюджэтныя грошы мы набылі "Тытанік".

***— Дарэчы, Васіль Пятровіч, гэта пастаянна падкрэсліваюць у розных публікацыях журналісты, маўляў, сталічны кінапракат выратаваў "Тытанік".***

— Няхай... "Тытанік" па тым часе — было вельмі трапнае пападанне: аншлагі! Падкрэсліваю: твор, даў нам пэўныя сродкі. Заробленых грошай, ды тых, што зноў выдзеліў горад, хапіла нам на набыццё новых фільмаў. Але ўжо не другарадных, а добрых, ды на тэхнічнае абсталяванне кінатэатраў "Масква" і "Аўрора". І ўжо менш чым праз два гады мы вярнулі дзяржаве пазыку.

***— Так скончыўся час разгубленасці, няпэўнасці? Гэта быў...***

— ...Пачатак 1998 года. А першыя змены да лепшага мы адчулі годам раней, калі пачалі ўдасканальваць сістэму кіравання кінапракатам. Тады мы цэнтралізавалі сістэму набыцця і паказу фільмаў. Перавялі кінатэатры з арэнды, якая не апраўдала сябе ў нашай сістэме, на гаспадарчы разлік. Тыя ж, якія былі не ў стане эканамічна сябе ўтрымліваць, сталі нашымі філіяламі. Такім чынам, нас выратавала аднаўленне цэласнасці структуры кінапракату, дакладна адладжаная сістэма яго кіравання, цэнтралізацыя сродкаў, заробленых намі і бюджэтных. Сёння маем мы ўжо шэраг выдатных кінатэатраў, якія па тэхнічнай аснашчанасці, абсталяванні кіназалаў, ды па ўсім адпавядаюць еўрапейскаму ўзроўню. І фільмафонд маем такі, што ўжо нярэдка на сеансах зала апладзіруе. Але, заўважу, ва ўсіх ста выпадках са ста — менавіта на замежных фільмах апладзіруе.

***— На тых, якія заслугоўваюць... Толькі, напрыклад, як, страсны прыхільнік усяго свайго ў духоўнай сферы, з павагай ставячыся да высокамастацкага чужога, апошнія твае словы разумею, нібы папрок нашым майстрам. Маўляў, слабо... Вас жа выратавала, аказваецца, чужое кіно.***

— Але ж высокамастацкае, парырую я. А нашых майстроў не папракаю, разумеючы, што зараз для іх — не лепшая сітуацыя.

***— Во, во. Пакуль не да забаў, не да відовішчаў. А яны ж, гэтыя кіназабавы і кінавідовішчы — выхоўваюць. Тых жа юных. У якім кірунку?.. "Амерыканізавалі" дзяцей нашых. І мы, бацькі, у сваю чаргу, вас папракаем: няма дзіцячага кіно ў пракаце.***

— Уладзімір Пятровіч! Ну што ж, прыслухаемся і да гэтага. Але няхай, калі ўжо так, усе нас пачуюць. Дык вось, калі, паўтаруся, напрыклад, у 1998 годзе мы не маглі купіць нават адну копію "Тытаніка", разрэкламаванага па ўсім свеце, дык ужо ў 2000 купілі ажно 90 назваў фільмаў. З іх — 30 для дзяцей. А дзіцячыя фільмы ўсе стратныя. І на ўсе гэтыя кінакарціны мы не патрацілі ні капейкі бюджэтных сродкаў.

Наогул сітуацыя з дзіцячым кіно тады на ўсёй постсавецкай прасторы была катастрафічная. За дзесяць гадоў перабудовы пракат не мог купіць ні аднаго новага фільма для дзяцей. І гэта, між іншым, не наша, кінапракатчыкаў, віна. Гэта агульная бяда наша.

***— А некалі ж, скажам, на нашым "Беларусьфільме" ствараліся такія выдатныя дзіцячыя карціны! Напрыклад, "Вялікі трамплін" Леаніда Мартынюка, "Зімародак" Вячаслава Нікіфарава, "Горад майстроў", "Русалачка" і "Палёт у краіну Пачвараў" Уладзіміра Бычкова, "Па сакрэце ўсяму свету" — тры навелы трох маладых рэжысёраў, знятых імі пад кіраўніцтвам Ігара Дабралюбава "Прыгоды Бураціна" Леаніда Нячаева, іншыя. Праўда, "Прыгоды Бураціна" — тэлефільм, але ж помню, як цёпла, узнёсла некалі ўспрымалі яго дзеці ў колішнім Доме кіно на вялікім экране. А колькі цудоўных мульцяшак стварылі нашы мультыплікатары па матывах беларускіх народных казак, па творах класікаў нацыянальнай літаратуры, ды арыгінальных сцэнарыях нашых пісьменнікаў... Гусоўскі, Танк, Караткевіч, Віталь Вольскі... Ды тады беларускія мультфільмы многія краіны куплялі.***

— Мы, пачынаючы з 2000 года, усё ж ухітрыліся купіць каля паўсотні фільмаў для юнага гледача. Зараз купляем не менш 30 стужак у год. Пераважна расійскіх, беларускія ж — усе без выключэння. А замежныя, дык толькі тыя, што з'яўляюцца сапраўднымі творамі кінамастацтва і выхоўваюць у дзяцей дабрыню і чалавечнасць.

Мы, зарабіўшы грошы, купілі шэраг мультпраграм савецкай вытворчасці. Між іншым, у Расіі, нібы спахапіўшыся, што знікла вытворчасць кіно для дзяцей, узялі ды аднавілі на Дзяржфільмафондзе 23 фільмы дзіцячай класікі. Усе гэтыя кінакарціны мы купілі. Называю хаця б такія: "Васіліса Прыгожая", "Дзюймовачка", "Рычард — львінае сэрца", "Прыгоды жоўтага чамаданчыка", "Сцяпанава памятка" (па Бажову), "Пашахонская старына", "Марозка"... Згадзіцеся: фільмы для дзяцей усіх часоў. А яшчэ скажу, што Беларусь — сёння адзіная рэспубліка сярод былых рэспублік некалі вялікай краіны, дзе захаваліся школьныя кіналекторыі. І тут сталічныя кінапракатчыкі як і раней працуюць у цесным кантакце з камітэтам адукацыі горада, са школамі, педагогамі, бацькамі. Напрыклад, у Мінску на пастаяннай аснове працуюць кіналекторыі маральна-прававой, маральна-этычнай і пазнавальнай тэматыкі. Так, у спецыялізаваным дзіцячым кінатэатры "Піянер" на працягу вучэбнага года арганізоўваецца 170 такіх кінапаказаў, а ў агульнаэкранным кінатэатры "Ракета" — 120.

Скажы, гэтымі стратнымі мерапрыемствамі для дзяцей займаліся б прыватнікі?..

***— Не ведаю, няхай яны скажуць. Але давай вернемся да тэмы размовы. Я зноў жа скіроўваю цябе на чужое кіно.***

— Давай, калі ўжо так настойваеш. Адкажу, а потым зноў пяройдзем да нашага. Дык вось, сёння доля, напрыклад, амерыканскага кіно ў нас складае 31 працэнт ад агульнай колькасці. Але на яго прыйшло 78 працэнтаў гледачоў. Запэўніваю: зараз мы купляем вельмі дарагое кіно. Мінчане і госці сталіцы, між іншым, сёння нярэдка глядзяць лепшыя сусветныя карціны ў адзін дзень з гледачамі Лондана, Парыжа, Бона, Масквы. Гледачу нецікава, як, дзе, за якія грошы мы купляем фільмы. Ён ідзе ў кіно, у "Кастрычнік", у "Маскву", у "Аўрору", у "Мір", у "Бярэсце", туды, дзе яму ўтульна, добра, дзе ён ужо прывык, што там выдатная гукавая сістэма. Яго не цікавіць, што за сістэму тую, якая называецца "ДОЛБІ" мы дорага заплацілі. А наша задача, каб у яго было права выбару, як мага шырэйшага выбару, што глядзець і дзе. На ўсе густы...

Што ж датычыць нашага кіно, дык мы купляем усё без выключэння, створанае іграві́камі "Беларусьфільма". Хаця, на вялікі жаль, ні адна кінакарціна нашых кінематаграфістаў пакуль сябе не акупіла.

А зараз скажу, лічы, прыватнае, сваё асабістае. Калі на карціне "Беларусьфільма" ў зале ўсяго некалькі дзесяткаў гледачоў, дык мне вельмі крыўдна. Не як пракатчыку. Проста, як грамадзяніну. Думаеш, ну чаму мы такія раўнадушныя да прац нашых кінамайстроў?

Зараз здымаецца "Анастасія Слуцкая". Кінапраект, якому надаецца дзяржаўная ўвага і значнасць. Нацыянальны кінатвор пра нашу гісторыю. Мы будзем паказваць карціну ў лепшых кіназалах. Дык давайце, ужо заклікаю і як пракатчык, падтрымаем яе!..

У нас выдатная кінадакументалістыка. Мультыплікацыйнае кіно таксама выдатнае, і мы яго таксама не разрушылі.

***— Цудоўна, калі так. У сувязі з гэтым нагадаю, што, напрыклад, кінадакументалістыкай "Беларусьфільм" вызначаўся ва ўсе часы. Некалі амаль усе агульнаэкранныя дакументальныя стужкі прымаліся на саюзны экран. Гэта азначала, што яны дэманстраваліся па ўсім СССР. У Мінску нават быў кінатэатр "Навіны дня", — для дакументалістаў. А зараз?***

— Зараз мы паказваем дакументальныя стужкі ў адной з кіназалаў кінатэатра "Камсамолец", дзе для гэтага ўстаноўлена спецыяльная апаратура. Запрашаем на кінапрэм'еры беларускіх майстроў. У тым ліку і тых, хто працуе на відэа. Калі ж праз месяц-другі адкрыем кінатэатр "Цэнтральны", дык і там будзем паказваць кінадакументалістыку. Дарэчы, гэты кінатэатр павінен стаць цэнтрам беларуска-расійскай кінематаграфіі: будзем паказваць расійскае і наша кіно.

І яшчэ, што датычыць нашых кінематаграфістаў. Так, мы супрацоўнічаем. Але, мусіць, трэба цясней, больш прадуктыўна. Сёння для гэтага ёсць усе ўмовы.

***— Васіль Пятровіч, калі пра гледача. Вось лічбы, якія далі твае памочнікі. 1997 год — 720 тысяч гледачоў. Мінулы год — 2,6 мільёна. Унушальна!.. Ад іх я чуў і такое: зараз шырока ўкараняецца сістэма кінапаказу — "Кінафармат 4х4". Стратны. Парадокс?!***



— Уладзімір Пятровіч, ніякага парадоксу. Стратны ў грашах? А ў іншым — не. Проста зараз мы думаем аб перспектывах развіцця кінапракату і можам нават запланаваць такую фінстрату. Дзеля чаго? Хаця б дзеля таго, каб наш глядач ведаў, як сёння развіваецца сусветны кінематограф.

Што такое "Кінафармат 4х4"? Гэта лепшае сусветнае кіно, якое адзначана прызамі на розных міжнародных кінафестывалях. Паказы — у "Перамозе", "Міры", "Аўроры", "Бярэсці". Чатыры дні — чатыры фільмы. У адным кінатэатры — адзін фільм, затым ён перавозіцца ў другі. Такім чынам за год мы можам паказаць 50 лепшых сусветных кінатвораў. Трэба сказаць, што гэтае кіно не для кожнага гледача. Не для забавы, не для відовішча. Але ў нас ёсць і такі глядач, які любіць такое кіно.

***— Наколькі мне вядома, здаецца, з-за гэтага "Кінафармату" з-за магчымасці, якая нібыта ёсць у многіх людзей, далёкіх ад кінапракату — паказваць элітарнае кіно, узнікаюць патрабаванні. Сутнасць іх адна: дайце і нам экранны час!..***

— Зусім не з-за гэтага. Мы ўжо гаварылі якім чынам адрадзілі дзяржаўную сістэму кінапракату. І без ніякіх інвестыцый. Сістэма здольна даваць дзяржаве прыбытак. Яго дае "экранны час". Просяць, патрабуюць, іншы раз далёка не ў мяккіх формах, каб гэты вельмі ўжо прывабны час далі ў лепшых кінатэатрах, размешчаных у самых людных месцах. Тады мы кажам, што ўсё гэта належыць дзяржаве. Гораду. Дзе вы былі раней, калі ўсе было развалена? Але выйсце ёсць. Пачынайце, як некалі пачыналі мы. Самі. Ідзіце, напрыклад, у "Вільнюс", "Партызан", у іншыя кінатэатры, дзе працы — непачаты край. Стварайце, праводзьце там свае мерапрыемствы, ды недаравальна разбазарваць дзяржаўнае, што ёю так няпроста адраджалася, арганізоўвалася, напрацоўвалася. І зараз дзяржава нашай сістэме надае належную ўвагу. У Мінгарвыканкаме — сапраўдныя прафесіяналы, гаспадарнікі. Ёсць узаемаразуменне, падтрымка, давер да нас, кінапракатчыкаў. Так прыемна і лёгка працаваць, вырашаць усё новыя і новыя праблемы, якія перад намі ставіць час, жыццё.

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# СПОВЕДЗЬ ЗБАЛЕЛАГА СЭРЦА

Я сумняваюся, што наўрад тыя, хто жыве ў Мінску па вуліцы Голубева ці праходзіць па ёй, шмат ведаюць пра чалавека, памяць аб якім увекавечана такім чынам. І нават тыя, каму давялося бачыць мемарыяльную дошку, не могуць асабліва пахваліцца гэтым веданнем, бо мемарыяльныя дошкі надзіва лаканічныя: яны паведамляюць асноўнае, а калі разабрацца — па сутнасці нічога не прамаўляюць. Але, калі б іх змест і быў куды больш шырэйшым, усё адно многае б заставалася, кажучы кінематаграфічным тэрмінам, за кадрам. Па той прычыне, што ў кожнага чалавека ёсць жыццё, якое навідавоку, а ёсць і тое, што хаваецца глыбока ў ягонай душы, ляжыць на сэрцы. І чым больш яркая асоба чалавек, тым больш гэтае патаемнае аб'ёмнае.

Іосіф Пятровіч — не выключэнне. У гэтым змаглі ўпэўніцца ўсе, хто некалькі гадоў назад на старонках часопіса "Нёман" пазнаёміўся з яго дзённікавымі запісамі, якія на працягу доўгага часу рабіліся для сябе, і іх аўтар, безумоўна, не разлічваў на тое, што яны калі-небудзь будуць апублікаваны. Цяпер споведзь адкрытай і шчырай душы зноў прыйшла да чытача. Гэтым разам у выглядзе кнігі "Счастье мое...", што мае падзагаловак "Дневники Иосифа Голубева 1916—1923 гг.» и выйшла ў недзяржаўным выдавецтве "Энциклопедикс».

У абодвух выпадках аб выданні дзённікаў І. Голубева парупіўся ягоны ўнук, паэт і навуковец Алесь Клышка. Падобны ўчынак заслугоўвае ўхвалы, асабліва калі прыняць пад увагу, колькі каштуе сёння выданне такой аб'ёмнай кнігі, няхай і невялікім накладам, усяго 500 паасобнікаў. Аднак нельга ў сувязі з гэтым не нагадаць і пра іншае. Будзем справядлівымі: колькі нас, грэшных, рупіцца, каб вярнуць з небыцця імёны забытых заслужаных людзей і, разам з тым далёка не ўсе з гэтых руплівцаў добра ведаюць уласны радавод. А. Клышка пастараўся, каб пра дзеда памяталі і праз дзённікі.

Выйшла кніга з прадмовай Генадзя Бураўкіна "Сустрэча з гісторыяй". Таксама прыклад, як трэба знаходзіць час, каб унесці, няхай і невялікі, але канкрэтны ўклад у добрае пачынанне і добрую справу. І не паленавацца яшчэ раз перачытаць, няхай і не стае вольнага часу, тое, да чаго нельга ставіцца абыякава.

Я таксама перачытаў гэтую споведзь І. Голубева. І таксама, як і першым разам, не пакідала мяне адчуванне, што падобныя публікацыі вельмі неабходныя. Вядома, яны патрабуюць працы думкі. Але гэта на карысць. Важна і тое, што аўтар дзённікавых запісаў па сутнасці нічога не адвяргае, але ён у многім сумняваецца, ён нярэдка, няхай у гэтым прама і не прызнаецца, знаходзіцца на раздарожжы.

Ростані гэтыя хутчэй за ўсё душэўныя. Чалавек сумленны, добры, І. Голубеў разумеў, што многае адбывалася зусім не так, як дэкляравалася. Вядома, ён не мог узняцца ў разуменні тагачасных падзей да ўзроўню, які адкрыўся нам, але ён пастаянна шукаў ісціну. І гэта вельмі ўхвальна, бо не з'яўляўся вінцікам сістэмы, і хоць гэтая сістэма спрабавала зрабіць яго падобным на тысячы, дзесяткі, сотні тысяч іншых, ён унутрана супраціўляўся і свой нялёгкі, няпросты, трывожны роздум давяраў паперы. Аднак занатоўваў не ўсё, многае трымаў у галаве, у сабе. Баяўся! Магчыма, і баяўся, а хутчэй за ўсё гэты пакутлівы роздум таксама неабходны быў, каб не страціць душэўнай раўнавагі. Інакш і навошта жыць!

Глыбокі сэнс мае такое сведчанне, што прыводзіцца ў пасляслоўі А. Клышкі. На схіле свайго жыцця І. Голубеў, а пражыў Іосіф Пятровіч блізу дзевяноста год, неяк сядзеў "за сталом у глыбокім задуменні, са схіленай на рукі галавой". Жонка запыталася ў яго: "Што здарылася!" Пачуўся адказ: "У мяне знік арыенцір у жыцці..." Хутка І. Голубеў памёр.

Дзённікі цудоўна дапаўняюць рэпрадукцыі здымкаў з сямейнага архіва І. Голубева, а таксама вытрымкі з мінскіх газет розных гадоў. Яны — як бы свайго роду каментарый да таго, што непакоіла Іосіфа Пятровіча. Яны ж і магчымасць лішні раз задумацца, наколькі ў жыцці ўсё няпроста, а чалавек, на тое ён і чалавек, каб жыць — ярка і паўнакроўна — наперакор усім гэтым цяжкасцям.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## ЮБІЛЕІ



**У Ірыны Жарнасек — юбілей. Нарадзілася яна 17 студзеня 1953 года ў в.Чаранкі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Плісkую сярэднюю школу. Была бібліятэкарам. У 1976 годзе завочна скончыла Мінскі інстытут культуры. Пасля пераехала на жыхарства ў Наваполацк і працавала там карэспандэнтам у мясцовых газетах. У рэспубліканскіх літаратурных выданнях пачала друкавацца з 1978 года.**

**Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1987 года.**

**Першы зборнік яе апавяданняў "Ліст да сына" пабачыў свет у 1986 годзе. Праз колькі год выдавецтва "Мастацкая літаратура" выдала яе кніжку "Гульні над студняй", а зусім нядаўна ў выдавецтве "Про Хрысто" выйшла новая кніжка пісьменніцы "Гадара", якую і рэцэнзуе тут вядомы крытык і даўні аўтар нашай газеты Ала Сямёнава. (Заўважу, што чакае свайго ўдзячнага выдаўца і напісаны раман пісьменніцы "Будзь воля Твая" пра вядомых ксяндзоў-марыянаў Юры Кашыру і Антоні Ляшчэню, што добраахвотна пайшлі на смерць разам са сваімі парафіянамі, якіх спалілі фашысты падчас вайны ў вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна.)**

*Мілая спадарыня Ірына, ведаючы пра цябе з намоленага і запісанага табой, цешу сябе спадзяваннем, што твой будучы юбілей будзе больш аб'ёмным, але не менш выдатным адносна формы і зместу табою створанага. "Няма шчасця на зямлі, але ёсць... воля", як пісаў вядомы паэт, таму падпарадкуем волю сваю волі Творцы нашага, каб урэшце займець у Яго спагаду да нашых "сэрц малых" і душаў грахоўных, а таксама да талентаў, нам дадзеных, спраўджаных і няспраўджаных... Што ж яшчэ можам мець, не маючы іншага? Толькі спробу апраўдання ўскладзенага на нас і плён наканаванага звыш. Бо ўсё астатняе — "пустая марнасць", як пісаў Эклезіяст напачатку. Аднак напрыканцы падсумоўваў гэтак: "Словы мудрых — што іголкі, як убітыя цвікі, і складальнік іх — ад адзінага пастыра. А што звыш усяго гэтага, сыне мой, таго асьцерагайся: складаць многа кніг — канца ім ня будзе, і многа чытаць — стамляецца цела. Выслухаем сутнасьць усяго: бойся Бога і запаведзяў Ягоных трымайся, бо чалавеку ў гэтым — усё."*

*І ці ёсць хто з нас без граху, каб кінуць камень у тую, што паверыла?..*

*А больш казаць не маю чаго. Дабра табе зычу. Жыві доўга і будзь творча здаровая.*

**ЛеГал**

# ПАВОДЛЕ ЕВАНГЕЛЛЯ

*"...няма нічога лепшага, як мець асалоду ад спраў сваіх..."*
*(Эклезіяст, 3; 2).*

А справы, пра якія гаворка, распачыналіся недзе ў сярэдзіне 90-х гадоў цяпер ужо мінулага стагоддзя. Спачатку газетнага кшталту выданні, потым — часопісы "Ave Maria" і "Наша Вера" — дзе кожны, хто імкнецца да ўмацавання духоўнасці, знойдзе свае старонкі: тэалогія, філасофія, гісторыя хрысціянства ўвогуле і каталіцызму ў прыватнасці, стан сучаснага рэлігійнага і духоўнага жыцця, гісторыя святыняў на Беларусі, сведчанні і навукова-мастацкія нарысы пра дойлідаў, мастакоў, музыкаў Беларусі. Проза, паэзія, эсэ. Многае — упершыню. Напрыклад, друкаванне Энцыклік, Пасланняў Апостальскай Сталіцы, твораў Пантыфіка Яна Паўла II на беларускай мове.

Усе гэтыя выданні — з блаславення кардынала Казіміра Свёнтака, намаганнямі каталіцкага кліру і грамадскасці, ну і, безумоўна, дзякуючы нястомнай, творчай, натхнёнай працы супрацоўнікаў на чале з Крыстынай Лялько, вядомым празаікам, таленавітай перакладчыцай і паэтэсай.

І вось — першыя кнігі "Бібліятэкі часопіса "Наша Вера". Адна з іх кніга апавяданняў Ірыны Жарнасек "Гадара", пра якую тут і пойдзе размова. Рэдактар — таксама Крыстына Лялько. Яна і рыхтуе кнігі ў друк неадрыўна ад працы ў часопісах і нягледзячы на шматлікія выпрабаванні апошняга часу, спасланыя ёй Звыш, найперш — пакутны канец зямнога жыцця яе маці.

Але ж, нягледзячы ні на што, "асалоду ад спраў сваіх" яна мае. І ад кнігі Ірыны Жарнасек "Гадара" — бясспрэчна. Ірыну Жарнасек добра ведаюць як цікавага, яркага празаіка, менш — як майстравітую перакладчыцу і рэдактара часопіса для дзяцей "Маленькі рыцар Беззаганнай". І кніга апавяданняў — выдатны выпадак пазнаёміцца з плёнам яе працы, што, з аднаго боку, працяг яе рэлігійна-духоўных штудый, з другога — яе творчых памкненняў празаіка свецкай тэматыкі.

"Гадара" складаецца з дзвюх частак. Першая — "Ноч пасля Галгофы": апавяданні паводле біблійных сюжэтаў. Другая — "Калі маўчаць званы": так бы мовіць, звычаёвага, свецкага кшталту, але з выразнай хрысціянскай свядомаснай і этычнай скіраванасцю.

Біблійныя сюжэты, як вядома, натхнялі творцаў на працягу двух тысячагоддзяў. Выяўленчае мастацтва, музыка, літаратура... Тэмы і персанажы — што даюць магчымасць для бясконцага мноства варыяцый. Вышэйшая Боская Рэчаіснасць, якая надае асобы сэнс таму, што імкнуцца выявіць людзі мастацтва, у шырокім разуменні гэтага слова. Вялікая тэма — і вялікая адказнасць. Дачыненне да сакральнага. І вырашае гэта кожны мастак па-свойму.

Ірына Жарнасек прапануе нам факт Евангельскі — дае цытату і вяртае нам гэтую падзею: перастворанай, набліжанай свядомасна, побытава, эстэтычна. Набліжанай — але ні ў якім выпадку не спрошчанай.

"...І прыйшоўшы да Езуса, знайшлі чалавека, з якога выйшлі дэманы; ён сядзеў каля ног Езуса, апрануты і ў здаровым розуме: і жахнуліся. І прасіў у Яго ўвесь люд Гадарынскага наваколля сысці ад іх, бо яны агорнутыя былі вялікім страхам" (Еванг. паводле Лукі, VIII; 35, 37). Так пачынаецца апавяданне "Гадара". Пра тое, як выгнаў Езус дэманаў з людзей, "паслаў іх у свіней", а свінні патапіліся. Але жыхары Гадары, дзе "ніколі нічога не адбывалася", а смуродная задуха ў паветры і ў душах людзей была звычнай, незаўважнай, а хамаватыя, жорсткі галоўны свінапас — самым паважаным чалавекам, маркоцяць, якім бы чынам адпомсціць Збавіцелю за свінняў: што людзям розум і годнасць вярнуў, то для іх не ў знакі. Не ў знакі — не ўсім. Запомніўся Ён, Выратавальнік, тым, каго Ён вярнуў да людскага жыцця: "Горка, што мы не прынялі Яго. Вельмі горка. Але калі прымем — Ён вернецца. Ён сказаў нам: ідзіце і кажыце людзям, хто вылечыў вас... І я... пайду..." І за ім, выратаваным, ідуць вясковец Янка і Міцька-свінапас. Каб ажыццявіць закон аджывання старога "я" дзеля Вышэйшай Боскай Рэчаіснасці. Каб сведчыць пра Цуд. Каб "набліжаць Ягоны час". Удзячна набліжаць. Як удзячная Яму, Езусу, Магдалена, тая самая, якую Ён уратаваў ад раз'юшанага натоўпу, прамовіўшы вядомае ўсім вернікам і нават усім атэістам: "Хто з вас без граху — няхай першы кіне ў яе камень".

У моманты найвялікшай роспачы і адчаю — Ён з намі, сведчыць Евангелле. Сведчыць і апавяданне Ірыны Жарнасек. Уратаваў, пазначыць яна ў сваім сюжэце, не толькі Магдалену, але і яе дзіця, накрэсліўшы на пяску іхнія лёсы. І зрабіў іх шчаслівымі, бо гэта ж найвялікшы Дар — Жыццё!

...Ірына Жарнасек дадумвае, працягвае ў сваіх апавяданнях тыя евангельскія сюжэты, што не так часта браліся ў мастацкі зварот (у адрозненне, скажам, ад эпізодаў з Понціем Пілатам, суда, Галгофы, здрадніцтва Юды і г. д.). Гадара, вось гэты сюжэт з Магдаленай, апавяданне "Першы" — пра пакутніцкую абранасць апостала Якуба: прынесці першую ахвяру за Настаўніка, за Хрыста. "Ты ўсё ж дазволіў мне, Кірые..." (Кірые — Пан).

Подзвіг Якуба — подзвіг асабісты, спалучаны са служэннем Веры, прастата яго сэрца і мудрасць духоўная, гарэнне духу, што прасвятляе ўсё, сіла вялікая, што дае звышсуб'ектыўная прыходзячая моц, якая сведчыць пра іншую, Вышэйшую Рэчаіснасць, подзвіг, што здзяйсняецца дзеля Веры ў перамогу Божую, — пра гэта апавяданне "Першы". Пра вышэйшую ступень Быцця, пра ўздзеянне духу Божага.




А пра ўзбурэнне духа злодзея Варавы, якога паводле волі натоўпу вызваліў Пілат, — "Ноч пасля Галгофы". Нават гэтага чалавека закрануў незвычайны акт: няма радасці ад вызвалення такім пакутным коштам.

...Беручы вось гэтыя, нібыта "пабочныя" сюжэты, Ірына Жарнасек набліжае да нас постаць Яго, Настаўніка, Збавіцеля — Езуса. Нібыта выводзіць Яго за межы вядомага. І як быццам бы вядзе размову не на ўзроўні паглыблення ў сутнасць, а толькі на ўзроўні сведчання — аднак валодае сакрэтам, калі містэрыяльны акт і, здавалася б, звычаёвы выпадак набываюць спалучэнне мастацкае, выяўляюць адначасова духоўную рэальнасць і падзейную эмпірыку. Гэтаму вельмі спрыяе тое, што Ірына Жарнасек змяшчае герояў быццам і ў рэальнай гістарычнай прасторы, і ў рэальных абставінах. Але разам з тым — гэта і пазачасавыя ўмовы, умовы нязменнага, адвечнага: лес, луг, ручай, пясок... Пісьменніца захоўвае і біблійную, прытчавую абагуленасць, абстрагаванасць, і падае элементы зямной, будзённай рэальнасці. Мы не знойдзем у яе рэалій біблійных, евангельскіх часоў, няма і "прывязак" моўных. Але ёсць адзіная рэлігійна-містычная рэальнасць, дзе прастора канкрэтна-ўмоўная, дзе знікаюць ме-

# ШЛЯХАМ СТАНАЎЛЕННЯ

Заўсёды па-добраму зайздрошчу рупнасці Уладзіміра Казберука. Асабліва таму, што цяпер, не зважаючы на паважаны ўзрост, Уладзімір Міхайлавіч працуе гэтаксама шмат і мэтанакіравана, як раней. Можна быць упэўненым: калі напаткаеш у друку публікацыю, пад якой значыцца яго прозвішча, гэта абвязкова будзе новае слова ці ў гісторыі беларускай літаратуры, таямніцы якой ён прыадкрывае даўно, ці ўдумлівае прачытанне творчасці каго-небудзь з беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць на Беласточчыне, у Польшчы — апошнім часам і гэтую дзялянку ён асвойвае з уласцівай яму грунтоўнасцю. А яшчэ У. Казбярук мае дачыненне да выхаду шэрагу кніг. Гэта як уласна аўтарскія выданні, так і творы тых, хто па нейкіх прычынах не прыйшоў своечасова да чытача. У гэтым сэнсе аб'ёмны том пад назвай "Заняпад і адраджэнне" (укладанне, прадмова і заўвагі У. Казберука), што выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура", працяг той добрай справы, якую нястомна робіць Уладзімір Міхайлавіч.

Кніга мае падзагаловак "беларуская літаратура XIX стагоддзя" і ўспрымаецца свайго роду хрэстаматыяй, якая, безумоўна, будзе з цікавасцю сустрэта (а многімі ўжо і запатрабавана) самым шырокім чытачом — не ў малой ступені настаўнікамі, вучнямі старэйшых класаў, студэнтамі-філолагамі. А хрэстаматыя, як вядома, гэта шырокі ахоп імёнаў. У дадзеным выпадку напаткаеш і тыя, якія даўно на слыху ў многіх як, для прыкладу, Францішак Багушэвіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Кастусь Каліноўскі, Янка Лучына, Паўлюк Багрым і некаторыя іншыя. Але ж беларуская літаратура XIX стагоддзя куды багацейшая, чым падаецца многім. У. Казбярук і пераконвае ў гэтым. Безумоўна, найперш творамі, змешчанымі ў зборніку, але яшчэ і грунтоўным артыкулам-прадмовай "Дарога на Парнас", у якім падрабязна прасочвае шлях, пройдзены беларускай літаратурай згаданага перыяду.

Сапраўды, гэта была "Дарога на Парнас", бо папярэдняе, XVIII стагоддзе, стала, як сведчыць У. Казбярук, "для нашай мовы, культуры і літаратуры" трагічным, "толькі ў нешматлікіх ізаляваных мясцінах ледзь прыкметная плынь беларускага літаратурнага жыцця не перасохла зусім. За ўсё стагоддзе з'явілася адна беларуска-польская камедыя, пару інтэрмедый, некалькі прымітыўных (у параўнанні з набыткамі папярэдняга перыяду або з дасягненнямі польскай і рускай літаратур) вершаў, нейкія два апавяданні, быў выпадкова ў польскім зборніку надрукаваны адзінюткі верш". Таму, каб "узабрацца" на Парнас, спачатку трэба было адрадзіцца, вось чаму "ў пачатку XIX стагоддзя беларуская літаратура адраджалася і станавілася на свае ногі, абапіраючыся на трох кітоў: на ўласныя нацыянальныя традыцыі, а таксама на здабыткі рускай і польскай літаратур". У сярэдзіне ж стагоддзя яна вылучыла ўжо каларытныя постаці, сярод якіх найбольш знакавая В. Дунін-Марцінкевіч. Нарэшце, канец стагоддзя характарызуецца ўжо не творчасцю адзінак, а наяўнасцю шырокага літаратурнага працэсу.

Кожны са згаданых перыядаў аналізуецца даследчыкам шырока, з прыцягненнем неабходнага матэрыялу для падмацавання сваіх развag. А гэта не толькі прозвішчы аўтараў, іх творы. У. Казбярук увязвае творчы працэс з тагачаснымі падзеямі, паказвае, як яны ўплывалі на яго. У кнізе прапанаваныя творы аб'яднаны ў тры раздзелы: "Ля вытокаў", "Станаўленне" і "Канец стагоддзя". У першых двух ёсць яшчэ і падраздзелы. Адпаведна: "Першыя крокі", "Ананімная літаратура" і "Літаратура гістарычнага рубяжа", "Сялянская рэформа і паўстанне 1863 года", Ананімная літаратура II палавіны XIX стагоддзя". Змест жа трэцяга раздзела вытлумачвае яго падзагаловак "Зараджэнне шырокага літаратурнага руху".

Дасведчаны чытач многія з прапанаваных твораў нават малавядомых аўтараў, безумоўна, знойдзе і ў іншых калектыўных зборніках. Але, сабраныя разам у кнізе "Заняпад і адраджэнне", яны даюць цэласную карціну літаратурнага жыцця XIX стагоддзя так, як разумее яе У. Казбярук.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**



# НА БЕЛЫМ ПАЛАТНЕ ЗІМЫ...

*Заплач мне, скрыпка, пра мяне,*
*Заплач, каб я адчуў душою*
*Сябе ў радзімай старане,*
*Дзе пахне лесам і вясною.*

*Разварушы сваім смычком*
*Маю заснежаную памяць*
*І ўваскрасі бацькоўскі дом*
*І восеньскага лісця замець.*

*Хай разгадае твой скрыпач*
*Мой лёс ад самае калыскі.*
*Ты на яго плячы паплач,*
*Як я на маміным калісьці.*

***

*Мая маленькая радзіма,*
*Мая вялікая віна,*
*Ты — мой заўжды прычал адзіны*
*І кубак, выпіты да дна.*

*Табе я ранкам памалюся*
*Ізноў, нібы ў апошні раз,*
*І лбом халодным прытулюся*
*Да шкла, што раздзяляе нас.*

***

*Тваю руку ў сваёй не затрымаць,*
*Яна сябе ўжо бачыць птушкай вольнай...*
*Усё прайшло. І не паўторыш болей.*
*Усё прайшло. І — новая зіма.*
*Зіма, зіме, зімою, пра зіму...*
*Я словы як малітву паўтараю.*
*Перацярплю. І зноў прайду па краю,*
*Каб не зваліцца ў снежную гурму.*
*Каб пальцы рук дыханнем апячы*
*І адагрэць крыху іх ад марозу.*
*І ў сэрцы адшукаць ад даўніх крозаў*
*Забытыя чароўныя ключы.*

***

*Сярод касмічных халадоў*
*Я мерзну адзінока зноў.*
*І цемра стыне за акном,*
*І ўжо чужым здаецца дом.*
*Сярод бясснежнае зімы*
*Згубіліся, напэўна, мы.*
*І я гукаю, а ў адказ —*
*Зноў рэха, што шукае нас.*

***

*Мне прысніцца над комінам дым,*
*Дом, дзе быў я яшчэ маладым,*
*Ціхі вечар і сад за акном,*
*Тата з мамай удвух за сталом...*
*А на вуліцы зноў халады,*
*На Палессі памерзлі сады.*
*Толькі памяці нашай сляды*
*Вузкай сцежкай вядуць праз гады.*

***

*Гэты холад, што выстудзіў нас,*
*Ён у чорнай прасторы начы...*
*Ты не плач, пасядзі, памаўчы,*
*І павер, што надыдзе вясна.*
*Нават зоркі, здаецца, дрыжаць,*
*Нават льдзінкі, здаецца, звіняць...*
*Так, нялёгка нанова пачаць,*
*Так няпроста хоць нешта сказаць.*
*Толькі холад пранізвае зноў.*
*Толькі ноч. Толькі морак сівы.*
*Толькі ты. І не ўзняць галавы.*
*І апошні цягнік адышоў.*

***

*На возеры танюткі лёд.*
*І заглядаю, бы ў люстэрка,*
*У новы век, у новы год*
*І з вераю, і з паняверкай.*

*Узгоркі сцішаных палёў*
*У зімнім одуме маўклівым,*
*І сэрца просіцца ў палёт*
*І рвецца птушкаю імклівай.*

***

*Я сабе выбіраў гэты дзень,*
*Гэты час, гэты век, гэты лёс,*
*І цяпер я смяюся радзей*
*Сярод белых самотных бяроз.*
*Але я не шкадую аб тым,*
*Што прайшло, адплыло, адцвіло,*
*Што растала, як восеньскі дым*
*Ці анёльскае ў небе крыло.*
*Я таго дачакаўся, што мог,*
*А цяпер — толькі праўда ўзамен,*
*Толькі гулкі віхур перамен,*
*Толькі пыл каля стомленых ног.*

***

*Мне ісці да цябе, як ісці да сябе.*
*Вось ты побач, і раптам няма.*
*І згубілася быццам усё ў варажбе,*
*Што наладзіла сёння зіма.*
*Халады, халады... Я бягу да вады,*
*А яна закаваная ў лёд.*
*А вакол — маразы. І рыпяць палазы*
*Цэлы дзень, цэлы век, цэлы год.*

***

*Зноў ступлю на знаёмы парог,*
*А за мною сляды і сляды,*
*А за мною расстанняў гады.*
*Ды я ўпарты. Мой знак — казярог.*
*І я знаю, не трэба крычаць,*
*А ісці, ногі збіўшы у кроў.*
*І чакаць. І трываць. І спяваць*
*Светлай мовай памкненняў і сноў.*

***

*На белым палатне зімы,*
*Дзе дрэў графічныя карункі*
*Сябе саміх шукаем мы,*
*Нібыта лёсу падарункі*
*І заканчэння не відно*
*Ў мігценні гэтым адмысловым*
*І тчэцца лёсу палатно*
*На чыстым аркушы зімовым.*



*"Ластаўка памачыла скрылле ў пахмурныя кругі па той бок свету..." Вірджынія Вульф.*

"Святочны кісель толькі гэта першы цэд, і гарнушак каб быў новы", — павучае баба Міхаліна маладзіцу. І сама, як Бедная куцця, нешта прасявае на ганку, перабірае вузельчыкі, папсаваныя мышой. "Як сена, то і хмара!" — рупіцца з сынам на сенакос, — Лета прыйшло. Цалны дзень ідзеш і ідзеш, як вада ў рацэ. Калі доўга сплю, то выдаецца, што ў гасцёх заначавала..." — гэта ўжо папрок на мой запознены ранак. Угледзела мяне ў садзе з кніжкай: "Ад аднаго класа можна пісаць умець", — крыкнула праз плот. Але ж і праўда, калі паслухаць ейную гаворку. Іншы раз выдаецца, каб не Міхаліна, зялёнай яшчаркай на камяні будзеш сядзець, пільнавацца цяпла, лета, толькі па чырвоным лісце з асіны пазнаеш, што Восень ідзе — яна планавала "і свёнткі і пёнткі", і пагоду, і пару году.

Баба Міхаліна жыве насупраць, хаця, як мяне паслухаць, дык выходзіць: уся вёска Душкава стаіць напроці. Ходзячы па свайму дому, каля вакна, дзе відаецца ейная сяліба, кожан раз зірнеш у той бок, бы цесна размінаючыся з самой гаспадыняй, з году ў год, з дня ў дзень — у тым самым месцы: а ці гарыць вакно? а ці ўстала? а куды гэта яна пайшла? па што? у чым? што робіць? Паварочваюся часцей няўцямна, механічна, у мяне ўжо скрыўлены пазваночнік у ейны бок, як у таго дрэва ў лясным гушчары, — выцінаецца, абмінаючы іншых, каб убачыць, ці высока сонца. Апошнім разам, як прыехаўшы былі да яе сын з нявесткай, памру і памру, казала. Хацелася, каб нехто вяртаў ейныя думкі, пярэчыў, ужаліўшыся, але ўсе маўчалі, як не чулі, ці шуткавалі з яе, што горай за ўсё.

Злягла баба Міхаліна раптоўна. Заходзіліся суседкі, пыталіся: што гэта, да чаго баба ў падушкі ўваліласяі?! Паляжу крыху, тлумачыла, а потым, як птушка: тая сядзіць, сядзіць, — пырх! і паляцела! І ў чалавека, маўляў, бывае такі час. Сама загадала сваці брата паззваць з далёкай вёскі, адкуль была браная. Сваццця злавалася: вясна сама ў пару ўвайшла, работы дачорта, пільніца, а гэта ж стары чалавек, яго трэба і прывезці і адвезці, дзе час браць на тое? Вось уляглася бабка і выбрыквае, нашто ён тутака? Міхаліна сціснула кулачок, стукнула па падушцы: "Гэта ж мой родны браток!", — крыкнула.

Пабыўшы, усе зразумелі, што захварэла Міхаліна з дасады, што аніхога блізкага ў яе не было, акрамя таго братка. А блізкі чалавек перад смерцю тое самае, што і бацюшка, абы было з кім шчыра пагаварыць, каб Бог пачуў.

Каму катораму скажаш праўду: сыну? нявестцы? унукам?

Бывала, едзе сын з бацькам (той яшчэ быў жывы) з лесу — высякалі атожылле каля маладых елак — едуць павольна, сядзяць на возе, як у хаце на лаве, адпачываюць. Здаволіўшыся лесам, гаворкай паміж сабой, едуць, як з вялікай бясeды. Самі ў зялёным, бы хмелем абвітыя, глядзяць па баках зялёнымі праз цалны дзянёк у лесе вачыма, чыста лесавікі — далучаюцца да людзей... Мужыка прыдавіла дрэвам у буру. Сын толькі скочыў з павозкі — і ў горад. Ажаніўся быццам нядаўна, а развёўся даўно — не да пары сабе ўзяў, б'е жонку, як нап'еццa. Жонка шалапайная, бадзяпая, з Расіі, з дзецьмі ўзяў, як качку дзікую з качанятамі прынёс з балота. І не тое, што б'е, а быццам увесь час адбіваецца ад яе, адбіваецца жорстка, дзіка — бароніцца. У груду склаўся быў. Але ўжо і сваё атожылле пайшло. Сын ейны, лічыла Міхаліна, лятучы, баялася яго затрымліваць з жаніцьбай, разап'ецца, разгуляецца, бо прыгожы. У нашым родзе, наказала, адзін раз кусок адразаюць, давіся, але еш усю жызню, балася разводу. Што з яго хацець — бацька саламяны, а дзіця залатое? Сын рос на расколінах, бо з мужыком блага жыла: і ў агародзе начавала, і ў садзе, каб ён хоць па п'янцы памыліўся, ды сказаў да яе ласкавае слова. Міхаліна са сваёй бядой на вёску не выходзіла, маўляў, суседзі, яны і сляпому пальцамі вочы сколюць. "Што ты ўсё пазычаеш, ты ж не гарэла?" — скажа ёй з папрокам каторая баба. Перада мной не хавалася, я ёй чалавек з чужой невядомай стараны, ндзе мы з ёй не сустракаемся, а ні на жніве, а ні на касьбе, гэта тое самае, што ў цягніку едучы разгаварыцца з незнаёмцам. Я магла толькі слухаць яе, патрапляць, не беручы на свой голас ейны лёс, бо ў маім голасе не было той даўкай хры-

# ПАЯДЫНАК

**Марыя ВАЙЦЯШОНАК**



патцы, якая нажываецца, ідучы за канём, шукаючы п'янага мужа па лесе, пільнуючыся сцельнай каровы праз ноч, і Божа мой, чаго толькі не паспытанага напроці яе! Я стаяла звычайна перад ёй калком, ні галля на мне, ні ліста: хаця б не парушыць ейную ці то гаворку, ці то песню. А раніцай, узышоўшы ў лесе на паваленае бурай свежае дрэва, пацяжэе на момант, бы возьмеш на грудзі свежы сырэц, не паспеўшы адскочыцца — ейныя прывіды ценем ходзяць ззаду.

З сынам — не! Тады, можа, з унукам пагаварыць? Усе яны ў яе нейкія непараўныя, лічыць. Прыехаў быў у вёску з сябрамі провады ў армію сабе рабіць, ну добра. І хаты не падмёў, нікога з радні не пазваў, сабраў торбу — і ў лес, на шашлыкі. Што гэта за мода? Яна, баба, яшчэ жывая, каб хоць дзеля яе туліліся, гэта ж ейнага роднага брацейкі дзяцей не паклікаў! Яна ж яшчэ жывая, крычала. Калі яны паспелі забыцца, згубіць раство, калі яна яшчэ на свеце пазначана? Пазначана, хто чый, хто каму, катораму даводзіцца! Тады Міхаліна сазвала каго з вёскі на скорую руку, вынеслі сталы, селі ў садзе. Добра, што цёпла было, што пагода, што пакошана. А каб дождж? Да Бога з хаты пайшлі, у сад па сённяшні дзень печ не беленая стаіць.

З унучкай? Спыніла была яе, зглядзеўшы дзірку на гетрах, тая ўзяла іголку, зашывае на сабе. "Вазьмі што-небудзь у рот, каб розум не зашыць!" "А палец можна ўзяць?!" — адказала бабе смеючыся, і ўвесь час так скалваецца. Пра нявестку і гаворкі не мае.

Вот пабачыце вы яе цяпер у сваім Мінску, яна не паедзе болей туды зімаваць. Нявестка не разумее ейнай мовы, па дзесяць разоў атумысла перапытвае. А калі пачуе, што сын з ёй гаворыць па-беларуску, баіцца, каб суседзі не чулі, ганьбы ёй не далі. Гэта не мова, кажа, а замова, сурокі, наветы, — ёй шкодзіць, і дзеці чуюць, нячыста па-расейску сталі гаварыць. Хоць ты ёй парай падалом кашулі твар абцерці, наслухаўшыся свякрыві. Вось твая міска, вось твая лыжка, і не паблытай, адсадзіла яе нявестка ад столу, карміла асобна, як прыхадзягу якога, з вуліцы, са свету, — з невядомага ёй, варожага свету. Тады Міхаліна, застаўшыся адна ў кватэры, узяла свой кій, вымерала ім шафу, потым дзверы, маўляў, як гэта яе будуць выносіць у труне, ці размінуцца? Але ж во нядаўна, распавядала мне, ужо лежачы ў ложку, чалавека хавалі, неяк жа вынеслі.

Баба Міхаліна ўвесь час то ззаду, то збоку, толькі языком прыцісне, войкнуўшы, калі я рассыплю ў лесе назбіраныя чарніцы, упушчу з рук соль, печ падцеплю позна. Азірнуся — анідзе анікога. Будзе вадзіць па сваіх сцежках, ніколі не возьме за руку, каб абвесці, нячыстае месца, каб не трапіць у смутную гадзіну. Сустрэнешся іншы раз раніцай, прывітаешся, а яна змаўчыць, ага, здагадваешся, на дождж збіраецца, як той казаў, а мне хмара на ейнае вока, бы на ўсё неба. Прынясеш гасцінца, і дзякуй не скажа, "няхай сабе будзе...", прамовіць абыякава. Яе лічылі ў вёсцы і хітрай, і натурыстай, і зайздроснай... і ішлі да яе, як ні да кога болей, проста пагаварыць. Так ідуць да вады. Ехала здалёк жонка нейкага сваяка па мужы, далёкая пляменніца з дзіцём, яшчэ нехта з радні, ледзь апазнаны. Міхаліна кідала работу, садзілася, размаўляла. Абы сышлася з кім у вёсцы, дзе яна апынулася, менавіта тут і ў гэтую хвіліну і нараджаецца ейная мова, б'е, іграе, вызваленая з-пад здзічэлага дзірвана маўчання, зацятай адзіноты. Словы знакамі прыналежнасці адзін аднаму, з кім бы ні вышлася, нейкая амаль метафізічная з'еднасць. А паслухаць збоку... гаворка іншы раз проста пра пагоду.

Узыдзеш іншы раз якраз на той момант, калі яна адпраўляе нявестку ў горад, складае сумку. На стале ляжыць сыр, непамерна вялікі, шэры, крохкі, посны, крыху адхілены ражок марлёўкі.

Тварог у адзін дзень, дальбог! Смятану зняла? Не, без смятаны малако і не кісне! Во які ён, што ўшыркі, што ўдоўжкі!

І над тым сырам крыжам, прастае яго, потым прыпадымае, як дзіцяці, падтрымліваючы абедзвюма рукамі, каб не зламаць пасярэдзіне.

Я амаль паўтараю за ёй, уводзячы ў вушы нявестцы, цешуся і са слоў ейных і рухаў, добра ведаючы, што Міхаліна сама ніколі лепшага не з'ела і не бачыла. Нявестка глядзіць на мяне, не разумеючы, доўга, стомлена, потым засмяецца, квола, нязвыкла, — твар бы засланы плачам.

Мяне адкідвала ейная стыхія бязвіннай сквапнасці, цемнашарнасць, я падымалася і зноў ішла да яе — пагаварыць. Яна сама і замаўляла мяне гаворкамі ад сваіх крыўд. Суразмеранасць быцця закалыхвала, здаецца, ляжыш у драўляных ночвах замест калыскі, як немаўля, недзе напачатку стагоддзяў, — і гаварыць яшчэ не ўмееш.

Нарэшце прыехаў браток. Каня не наважваў, вялізную барму скінуў з сябе проста на дарозе, ускалыхнуўшы панадворак аж да самай Міхаліны духам нашых мясцін, нашых дажджоў, снягоў, пасюкаў, не захінаючыся, зняў таўстую торбу, і ў хату. Скора і выйшаў, стаяў, лапаў па кішэнях, шукаючы курава, азіраўся, на сходках зачапіўся за вядро, яно пакацілася, адазваўшыся бубнам. Падняўся ў стрэмя лёгка, конь скрануўся адразу, чалавек падаўся ўсім целам наперад, умомант зросшыся з сядлом, з канём, бы і не злазіў, а толькі во праехаў каля хаты. Паехаў ганец, павёз вестку на Міхаліну родзінку, вестку зямлі, вадзе, людзям, што яна памірае. Дарога ягоная з пагорка на пагорак, лесам, полем разгортвалася тугім скруткам, у якім на старасвецкай мове сувязей паведамлялася: хто нарадзіўся, хто ажаніўся, хто і памёр.

А назаўтра што дык падалося: праехаў на кані каля Міхаліны чалавек. Ні капытоў не было чуваць, ні скрыгання калёс, сам у зялёным, сядзеў нерухома пасярэдзіне вазка. Каля веснічак адсунуўся на край, аслабаняючы некаму месца, быццам па-змоўніцку выкрадаючы некага з хаты. Я пазнала Міхалінінага мужыка, якога ніколі не бачыла. І сама падалася на панадворак з тым дзявочым спрытам, з тым забытым маладым жаданнем, калі была яшчэ дзеўчынёхай: выйсці замуж за лесніка, мець многа дзяцей і каня.

Пасля ад'езду братка ўсё як адмянілася. Цвіў бабін стары сад, да зямлі галлём. Зірнеш выпадкова, квецень на момант пахінецца ад погляду, як ад ветру белы дым, і спыніцца, варта толькі ўсвядоміць тое, што ўбачыў — усё навокал мяне ўжо цяперака на мяжы рэчаіснасці.

— У цябе быў дождж? — пытаецца сусед праз вуліцу. — Праўда быў? А ў нас не!

Перагаворваліся ў вёсцы пра тое, пра сёе, а трывога анікога ўжо не пакідала. Бы ўвесь час ходзіш па бабіным садзе да ракі, у лазню, ці ў лес, а браток той, ад'ехаўшы, павесіў касу на сук якраз над сцежкай, высока, стромка над галавой вісіць, як варожыць на твой лёс. Хаця з касой смерць прыходзіць, пэўна, толькі на вайне, здымаючы маладыя галовы. Да старых яна ідзе, украдаючыся, укладаецца побач, жаліцца, што змерзла, хукае ў твар марозівам, нясуць ёй другую падушку, трэцюю, яшчэ коўдру, і варта сашчапіць рукі, каб паспавядацца блізкаму чалавеку ці памаліцца, мацуе іх абручом навечна. Што яна гаворыць? Да каго? — перапытваюцца, наведваючы Міхаліну. І быццам аніякіх знешніх знакаў урачыстасці прыходу смерці: ну памірае стары чалавек, дык жа ўсе там будзем, ніхто не ўратуецца.

Як раптам адчуваеш, што гэтая ўрачыстасць займаецца ўнутры цябе самога. Пасля прыезду братка, пачалася, ішла быццам служба, кожны спавядаўся адзін аднаму ці сабе самому. "Жывеш во... жывеш..." — паківае галавой сусед, вяртаючы нарэшце даўгі доўг. "А-я-яй, во як..." — адгукнецца ўголас сваім думкам суседка. З мяне здымаўся цяжкі покрыў крыўды: я павінна адпусціць віну сваім вінавайцам, падумалася. Ішоў час, людзі пыталіся пра Міхаліну адзін у аднаго, пальцам у той бок, вокам на ейную хату — пільнавала вёска тую хвіліну, каб нарэшце загаварыць, зажаліцца, уплакацца, бо жалю таго ўжо сабралася поўна, як вочка. Дзе б хто ні быў — у полі, у лесе — што б ні рабіў, мы ўсе былі з Міхалінай у ейнай дарозе; азіраліся вакол сябе, адшуквалі звыклыя рэчы, гукі, размаўлялі з наваколлем на мове развітання, выконвалі тое, што ёй было асабліва пільным. Сын у гарадской чыстай кашулі, — не пераапрануўся, бо трэба быць напагатове, — перакідваў дровы ў паветку (гадамі моклі на дажджы), папраўляў плот. Нявестка садзіла капусту, аж тэтар ішоў, бабы наказалі, каб спяшалася: маўляў, калі свекрыва памрэ, нельга нічога садзіць, зямлю турбаваць, трывожыць з малой прычыны — дол будуць капаць.

Не ўсе здагадваліся, што такія старыя, як Міхаліна, гэтак скоранька не адыходзяць.

Якраз субота, цяплілі лазню, вада засталася гарачая, мне наказалі. Быццам і не хадзіла я да іх, а тут пайшла.

Выходзіла з лазні ўжо на змроку. Валасы простыя, змыта гарадская шмінка, гумовікі на босую нагу. Раптам трапляю ў Міхалінін след, спыняюся, не сваімі вачыма аглядаю ўсё навокал, бы першы раз бачу ці апошні. І ўсё каля мяне прыпынілася, нават рака, як на спатканні. "Я за гэты стол замуж ішла..." — узышлі на памяць Міхалініны вершасказы. За гэты лес, за гэты луг, за раку каля ног. Я сама тут адзіны раз належала мужчыне, лесніку, належала да астатку, пакуль з кораня не знялі, як тая вольха каля вады. Адзіны раз, нажыўшыся за ім, п'яніцай, гулякай, адчула, развітваючыся, бы сок бярозавы на вуснах, свае слёзы. Адзіны раз, трапіўшы ў Міхалінін след, я была ў поўнай згодзе з сабой. І стужкамі віліся скрозь галлё яблынь птушыныя дарогі. Зямля ляжала сапкая, лёгкая, бы з млына, — перабраная каранямі, паміж пальцаў перацёртая, цёплая. Малькі ў вадзе срэбнымі аскепкамі, "тут, каля кладкі, я свой пярсцёнак упусціла, не знайшла", падказвае Міхаліна. Палова колца месяца зіхацела на самым донцы неба. Сад у белым, мне пасуе белае, я адчувала квецень на сваіх рукавах. Быцам вось-вось увайду ва ўрачыстую залу, і хочацца падняць рукі, апошні раз папраўіць валасы перад люстэркам.

Ужо Міхаліна не гаварыла, ветрам адносіла ейны голас, ён то з'яўляўся, то знікаў, як зязюля з далёкага лесу. Палілі свечкі, звалі суседку памаліцца, былі моманты, што яна ўжо адыходзіла — і зноў па што якое вярталася. Якраз унучка была ўзышоўшы з аўтобуса на такі час, спужалася, далася з хаты, як не ў вакно, моцна закрычала. Была ў яе голасе тая нота старадаўняга галашэння, якой не хапала ў людской памяркоўнасці, у гэтай урачыстай цішы. І цяпер абы-хто моцна загаворыць, курыца, сакочучы, саскочыць з гнязда, нават голас пчалы, любы гук уплятаўся, доўжыў голас унучкі. Ці раптам дзеці закрычаць, гуляючы на вуліцы, іхныя дуроныя выкрыкі трывожылі найболей — ляціш да вакна, — пэўна, нашыя галасы ў адчаі падобныя на дзіцячыя. Чаканне галашэння. Мы ўсе ўжо былі запрошаны і быццам стаялі каля Міхаліных веснічак, быццам увесь час марудна падымаліся па сходках на ганак да яе.

І дровы былі спарадкаваны, і капуста пасаджана, падганялі работу і гэтым самым (аніяк не вымавіць) марудную Міхаліну смерць. Бо няма каму заставацца з маткай, трэба вяртацца ў горад на працу. Вось ужо нехта і засмяяўся на панадворку — урачыстасць, жалоба, споведзь маюць свае тэрміны — дух трэба перавесці, дух трэба змяніць, хоць ты юшку ў печы адчыняй.

Дзверы ў сенях былі ўвесь час расчыненыя, а то раптам нехта павольна, баючыся, каб не ляснуць, быццам пацягнуў за клямку, прычыніў, не прыціскаючы. Сын з нявесткай збянтэжана пераглянуліся: у хаце анікога, акрамя Міхаліны, і тая два тыдні не ўстае з ложка, пайшлі паглядзець.

Праз некалькі хвілін сын выйшаў, прыхінуўся шчакой да вушака, — хата была яшчэ цёплая.

Вось і лаву з лазні панеслі, тую, з якой я нядаўна злезла. Лава даўгая, шырокая, неслі па вузкай сцежцы, удвох, за два канцы, лава плыла, пагойдваючыся, праз белы сад, праз белы свет, як на хвалях, ад аднаго берага да другога. Няўжо мыць пакойніцу?! З маіх вачэй пасыпаўся чорны начны морак. Кінулася да шафы, перакідвала й перакідвала адзежу, аніяк не магла ўзбіцца на патрэбнае для такой цёмнай гадзіны, і ў Міхаліны ўжо не папытаешся. Станчэлі, сышлі мае быццам крэўныя сувязі са светам, сцялася вусце і майго жыцця, мяне, як атожылку, перасяклі лапатай, пакінулі на сваім слабым карані — слабка да ванітаў. Ляцеў бусел над хатай, упусціў з дзюбы жабу на мой панадворак — і пачалося! Расхінуліся лясы, пагоркі — пустое голае месца пасля Міхаліны, выкачанае п'яным бязладдзем, сурочанае чужой мовай, я, казаў ейны сын, толькі з маткай размаўляю па-беларуску. "Смутку й смутку паляны". Маё гняздо побач з гнёздамі бусла, драздоў, каменнымі пакоямі жаб, скляпеннямі кратоў, але я не ведаю іхняй мовы, як Міхаліна. Хацелася аберуч перанесці сваё гняздо да маладога саду, але хіба ёсць такая зямля, дзе старыя людзі не паміраюць?!

З раніцы пад'язджалі фурманкі, адна, другая, трэцяя, спынялі коней, не распрагаючы ішлі ў хату, быццам трэба было ўпэўніцца, запытацца: ці праўда, а можа, яшчэ..., а ці ў гэтай хаце яна, бо ўсё адмянілася навокал. Сонца стаяла, як зачыненае ў памяшканні, ніхто па ім свой час не вызначаў. Ішлі старыя бабы, крок размашысты, рашучы, кій натапураны, хусткі на чорнае не перавязаны, — няма калі жалобу насіць, яны і самі незадалёка ад Міхаліны, ад ейнай пары, толькі што во на сваіх нагах яшчэ пакуль. Круга па панадворку, асядалі на лаўцы пад вокнамі адпачыць, — ціхай хадой, нізкай зграяй. Падымаліся па сходках, пакінуўшы кій ля дзвярэй, зноў вярталіся халадацца, крокі за кожным разам усё цяжэйшыя, бы яны ідуць па гэтых Міхаліных сходках без перадыху цалны дзень, вышэй і вышэй тыя чатыры незлічоныя.

Ужо быццам і пара труну прывезці, але сыну доўга не ўдавалася аформіць патрэбныя дзеля такой прычыны паперы. Нарэшце-такі даміна была прывезена, ды запазніўся бацюшка. Мужыкі выходзілі ў сад, лапалі па кішэнях, шукалі курава. Бабы некаторыя пайшлі дамоў, хату паглядзець — скрозь у вёсцы алканаўты, каб не сцягнулі што добрае, дапільнаваўшыся. А мне выдавалася, Міхаліна сама запыняе і сына, і бацюшку, бавіцца, бо не з усім развіталася, не пра ўсё наказала. Я падрабіўшыся, памкнулася смецце вынесці, "нічога з хаты не вынось, каб у адну пуціну са мной не трапіць", спыняе мяне голас Міхаліны галасам неспадзяваных грымотаў — першая сёлета навальніца. Дрыготка рэкнулі, застоіўшыся за зіму, шырокія нябесныя вароты, — петлі захраслі, заіржавелі, — павольна расхінаюцца якраз над вёскай, бы перад паркай коней, разложыста, без маланкі і дажджу, з канца ў канец. Цяпер тых коней толькі ў восень распрагуць, паставяць на месца і зачыняць. І ніхто звычайна работы не кіне, ні чалавек, ні птушка на першым разе, толькі ўжо калі загрыміць крыху пабыўшы, — заблішчаць гарачыя падковы, завіхурацца хмары, — пойдуць да хаты, да гнязда, каб зняць адзежыну з плоту, комін засунуць. Пах свежассечаных елачак на панадворку востра адазваўся водарам нябеснага едлаўца, дымком свяшчэнных курэнняў.

Змыўся слязой апошні момант, калі нарэшце выносілі з хаты вечка труны, — убачылася тое, што было звычайна. Усе ўжо стаялі на панадворку, даючы дарогу Міхаліне. І яна... выйшла да людзей, з кіем, прыбраўшыся, як звычайна выходзіла да сынавай машыны ці да павозкі брацікa. Падбіраецца, абціскаючы свежыя фальбоны на спадніцы, правярае кішэні ў кофце, маўляў, чаго добрага ізноў на найніцу апранула — завешаныя чорным люстэркі ў хаце, не было куды паглядзецца. Азіраецца круга, усміхаецца, бы яна ўжо ў натоўпе, ужо бачыць у твар тых, да каго ехала, — ад самага парога на людзях.

Ні смутку, ні жалю — яна вернецца...

І пэўна не адной мне выдалася, як Міхаліна ішла ззаду за сваёй труной. Бо на другі дзень нявестка загадала вынесці пасцелю свекрыві і спаліць на скрыжаванні дарог. "Таких людей нужно с бубном хоронить, а не с батюшкой!" — сказала. Ніхто не перапытваў, чаму. Бабы, даведаўшыся, і не здрыгануліся, бы каменныя багавіцы, якім не шкодзіць ні агонь, ні вада. Добра, што хоць столь не загадала ўзарваць, каб свекрыва хутчэй адышла, пагаворвалі, маўляў, такая ўжо нічогая маладзіца, як укінутая ў людзі і забыліся на тое.

Не перастаю звыкла ўзірацца ў цёмныя вокны — сонца ўсходзіць, сонца заходзіць, мне не хопіць свайго жыцця адвыкнуць. Ні ценяў, ні зданяў, толькі раз паўначой у навальніцу кароткім позіркам бліскавіцы ўбачыш на ганку постаць Міхаліны і не спужаешся. Хата ейная надзіва не агорнута цішай маўчання смерці, хоць і пустуе, яна быццам пакінутая пасля вячэрняй малітвы капліца. Тут маліліся, каб град поля не пабіў, каб немец болей не прыйшоў, каб бура не заспела мужыка ў лесе — абы твар павярнуў да сонца, то і малітва, абы толькі ўдалося сцішыць у душы злосць, гнеў, — гэта ўжо і ёсць сувязь з Богам. Дом — храм Быцця.

Увесь час чую малітоўныя галасы з пустой Міхалінінай хаты і спрабую сама, на клірасе стоячы, ледзь чутна, падводкай: каб град поле не пабіў, каб немец болей не прыйшоў, каб мужыка бура ў лесе не заспела. І каб да самай смерці мову не адняло.

Ні смутку, ні жалю — яна вернецца...

ЛІМ-ЧАСАПІС

# МАСТАК МУСІЦЬ МЕЦЬ РАДЗІМУ

**У выставачнай зале па Рэвалюцыйнай, 13, светла, цёпла, утульна ад прыгожых сонечных акварэляў мастачкі Зоі Літвінавай. Нейкі асаблівы настрой ствараюць цудоўныя фарбы яе твораў. Бліскучыя цудоўныя залатыя колеры, незвычайна мяккія шчырыя таны, паўтаны чырвонага, зялёнага, блакітнага... Гэтая гармонія, лёгкасць, паветранасць стварае святочнасць. Здаецца, фарбы гучаць, у зале светла літаральна ад саміх твораў мастачкі, яркіх, каларытных. Але гэта не выпадковае спалучэнне колераў, але глыбіня і эмацыянальнасць. А яшчэ колер раскрывае змест работ.**

**Адчуванне радасці ад сустрэчы з таленавітай мастачкай яднае многіх, хто прыходзіць паглядзець гэтую яркую экспазіцыю. Упершыню персанальная выстава Зоі Літвінавай, заслужанага дзеяча мастацтва Беларусі, адбылася ў сталым узросце з нагоды 60-годдзя. Да таго яна неаднаразова выстаўляла свае палотны на самых розных экспазіцыях. Так што яе ведалі і паважалі. Творы Майстра ёсць у фондах сусветна вядомай Траццякоўкі. Яна выстаўляецца ў Даніі, Італіі, Германіі, Аўстрыі. Яе работы набываюць прыватныя калекцыянеры.**



**Сваёй другой радзімай яна лічыць Аўстрыю. Тут яе ведаюць не толькі па творах, але і ў твар, яе нават пазнаюць у цягніку. У яе шмат заказаў і ў першую чаргу — партрэты. Але даводзілася ёй і распісваць царкву. Дванаццаць гадоў прайшло з яе першага знаёмства з Аўстрыяй. Паступова яе творы займелі такі высокі статус, што яна на пачатку нават не магла пра такое марыць. Гледачы палюбілі мастачку і яе творы. Зараз у Зоі Літвінавай ёсць у Аўстрыі майстэрня, дзе яна часам жыве і працуе. "Я нарэшце зразумела, што такое запатрабаванасць", — гаворыць мастачка.**

**Зоя Літвінава з удзячнасцю прыгадвае тых, хто дапамог ёй знайсці самога сябе: "Мой вялікі настаўнік, даўно памёршы мастак Сяргей Пятровіч Каткоў умеў адчуць душу работы, яе натхнёнасць, і гэта ён пастараўся перадаць мне, — гаворыць яна. — І колер у маіх работах мае вялікі сэнс. Я ў вялікім захапленні ад філонаўскіх работ. У кожнай з іх — вялікая філасофія. Вельмі люблю творчасць вялікага Мацiса. Лічу яго геніем колеру. Сама ж я не магу пісаць карціны без класічнай музыкі. У маёй фанатэцы амаль усе творы Моцарта, арганныя канцэрты Баха. А тэмы для маіх работ узнікаюць спантанна. Часам, калі працую, да мяне прыходзіць адчуванне колеру, жыцця і незвычайнага свята".**

**З цягам часу, па прызнанні мастачкі, у яе творах змянілася форма, свет, колер. Цяпер яна рэалізуе свае ідэі ў выглядзе жывапісных цыклаў. Напрыклад, трыпціх на тэму Егіпта. "Колер можна перадаць толькі колерам, — мяркуе Зоя Літвінава, — стасункі колераў, цёплага і халоднага, ствараюць гармонію. Тады карціна дыхае светам. У ёй ёсць свая аура".**

**Мастацтва не ўзнікне з нічога. Мастак мусіць мець радзіму — так мяркуе Зоя Літвінава. "Чым больш бываю за мяжой, тым больш люблю Беларусь". Ёсць жа рэчы, якія немагчыма ні з чым параўнаць. Гэта твае бацькі, настаўнікі, сябры і, вядома ж, могілкі родных, блізкіх. Гэта немагчыма разлюбіць, забыць. "Я ж дзіця сваёй Беларусі, якую ні на што не прамяняю", — пачула я ад мастачкі на заканчэнні нашай гутаркі.**

**Вера КРОЗ**

*НА ЗДЫМКУ: мастачка ЗОЯ ЛІТВІНАВА.*

МУЗЫКА

***З чым толькі ні параўноўваюць музыку! Называюць яе і паслом міру, і універсальнай, зразумелай без перакладу, мовай дыпламатыі. Акурат гэта і ўспадае на думку, калі згадваеш, як самааддана і годна выконвалі сваю эстэтычную, дабрачынную, дыпламатычную місію ўдзельнікі снежаньскай вечарыны ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі.***

# «САМЫЯ-САМЫЯ» ДЫПЛАМАТЫ

Адбыўся той калядны дабрачынны канцэрт дзякуючы ініцыятыве... дыпламатаў. Сапраўдных, прафесійных. Яго арганізацыі паспрыялі аддзел супрацоўніцтва і культуры пасольства Францыі на Беларусі ды мінскі Міжнародны жаночы клуб. Падтрымалі высакародную музычную акцыю і прадстаўнікі дыпламатычнай місіі розных краін, прысутныя сярод гледачоў.

З чым жа можна параўнаць уражанні ад канцэрта, зладкаванага ва ўтульна сціплай, па-хатняму цёплай гасцёўні каледжа? Пэўна, з радасным здзіўленнем ад прыемнага і густоўнага сюрпрыза, знойдзенага пад каляднай елачкай. Унікальная прафесійная музычная школа для даравітых дзяцей прэзентавала выканальніцкія таленты сваіх выхаванцаў — ад юных лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, нядаўніх пачаткоўцаў, да выпускнікоў са значным конкурсным, артыстычным, педагагічным стажам.

І — дайце веры! — не дзеля нейкага святочнага кантэксту параўнала я свае, дый, мабыць, не толькі свае, уражанні з радасцю ад сюрпрыза. Нават знаёмае і чаканае (амаль усіх удзельнікаў канцэрта мне даводзілася слухаць неаднойчы) здзіўляе, падаецца свежым і непаўторным, калі ёсць у ім іскрынкі Боскага святла, творчага таленту, загадкавай трапяткой зменлівасці. Таму ўсё гэта нібы паўставала для мяне ўпершыню, нараджаючыся тут і цяпер: пастэльная пластычнасць поліфаніі ў Капэле хлопчыкаў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Глушакова; барокавая вытанчанасць голасу цымбалаў Алесі Дзенісені; высноўванне прыгожай і артыстычнай інтанацыі ў ігры віяланчэліста Вані Карызны; кранальная віртуознасць 10-гадовага "перпетуум мобіле" — піяніста Паула Нетука; пявучы кларнет Рамана Кушнярова...

Што ўжо казаць пра "зорны дуэт" маладога скрыпача Арцёма Шышкова ды майстра фартэпіяна Уладзіміра Дулава, якія перастварылі вядомы вальсавы эцюд Сенс-Санса ў нязмушаны імправізаваны дыялог! Што казаць пра высакародны і рамантычны піянізм Андрэя Паначэўнага, які самааддана і захапляюча перажываў эмацыйна-вобразны змест бліскучых старонак творчасці Шуберта ды Ліста!.. Ну, а гаварыць пра эфектныя канцэртныя нумары Камернага аркестра пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна, дзе інтанацыя адточана да бездакорнасці, кожны штрых і ўздых "пацаляе ў дзесятку", — усё адно што распавядаць пра смачны дэсерт, якога твайму суразмоўцу пакаштаваць не давялося.



Дыпламатычную місію перад замежнымі гасцямі выхаванцы каледжа выканалі выдатна. Старэйшая спецыялізаваная музычная ўстанова пацвердзіла свой прэстыж. (Дарэчы, сёння тут вучацца дзеці не толькі з усёй Беларусі, але і з Францыі, Кітая, Расіі, Ірана, Украіны). А збор ад продажу білетаў на гэты канцэрт стаўся зусім не лішняй "драбязой" у штодзённых патрэбах, зразумелых сёння ўсім творчым установам.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**
**Фота А. МАЦЮША**

САМАДЗЕЙНАСЦЬ

***З восені ў "Радоне" пад Лідай, "Сасновым бары" пад Радашковічамі, "Налібоках", "Сонейку" і іншых санаторыях унітарнага прадпрыемства "Белагразраўніца" пачаўся фестываль жартоўных, бадзёрых, напоўненых радасцю жыцця, гумарам, гарэзлівасцю, жартамі кірмашовых, застольных, карчомна-гістарычных, танцавальных, скокавых, карагодных, гульнёвых і падобных песень, танцаў, музыкі "Кірмашовы фэст".***

# «КІРМАШОВЫ ФЭСТ» У ЗДРАЎНІЦАХ

Кіраўнікі санаторна-курортных устаноў па рэакцыі адпачываючых увачавідкі пераканаліся, што свая, родная, як святочная чыстая сарочка на цела, прыгожая песня, танец, музыка пасля добрага харчавання не горш, а душу і лепш лечаць, чым шматлікія, а часам і лішнія медыкаменты. Усю творчую энергію, душу, веды і арганізатарскія здольнасці ўклалі ў гэтую справу працаўнікі на ніве культуры Уладзімір Зайцаў, Людміла Малец, Ірына Пятроўская, Галіна Стасюкевіч, Лілія Ахрыменя і інш.

Беларускі народ на працягу стагоддзяў адносіўся да кірмашоў, асабліва багатых восеньскіх, не толькі як да гандлю, а ператварыў іх у святочныя з'явы са шматлікімі прадстаўленнямі на адкрытых пляцоўках спеўных і музычных ансамбляў, скамарохаў-валачобнікаў, цыганоў, батлейкі, інтэрмедый, жартаў з гандлем, карагодамі, скокамі, гульнямі і шматлікімі іншымі формамі.

Неабмежаванае кола для творчай дзейнасці дае "Кірмашовы фэст" для працаўнікоў культуры ў санаторыях, дзе не толькі спрыяльныя, але ідэальныя ўмовы для кірмашовых забаў: выдатныя залы і сцэны, куды можна арганічна перанесці тэатралізаваныя відовішчы. Напрыклад, увесці ў забаўляльныя праграмы батлейку і найбольш распаўсюджаныя кірмашовыя вобразы: бабку Еўку, дзеда Тамаша, Несцерку-дзетак шэсцерка, Цярэшку з яго шматлікімі "дзядулькамі і бабулькамі", карчмара-яўрэя, селяніна і студэнта, цыганоў і лекараў, Лявона і Лявоніху, бычкоў, конікаў, коз, мядзведзяў, буслоў, яшчураў для адпаведных гульняў і гандлёвых сцэн і шмат іншага. Амаль усё гэта выкарысталі культарганізатары ўсіх дзевяці санаторыяў "Белагразраўніцы" ў сваіх праграмах "Кірмашовага фэсту"і многа разоў весялілі імі адпачываючых.

Напрыканцы года лепшыя кірмашоўцы ўсіх дзевяці санаторыяў цэлы дзень паказвалі свае выдатныя дваццаціхвілінныя мастацкія прадстаўленні ў санаторыі "Світанак" Любанскага раёна.

"Белагразраўніца" ўключыла ў кампетэнтнае журы загадчыка кафедры рэжысуры свят Беларускага універсітэта культуры Пятра Гуда і дацэнта гэтай кафедры Ніну Гуд -- аўтараў адзінай манаграфіі "Беларускі кірмаш", рэжысёра Белдзяржтэлерадыёкампаніі Мікалая Зарэмбу, які ў свой час рыхтаваў папулярнейшыя фальклорныя тэлепраграмы "Запрашаем на вячоркі", вядомага пісьменніка, арганізатара фестываляў гумару ў Аўцюках Калінкавіцкага раёна Уладзіміра Ліпскага, прадстаўнікоў мясцовых улад і сродкаў масавай інфармацыі, якія ўважліва прагледзелі, аб'ектыўна прааналізавалі і ацанілі мастацкі ўзровень праграм. Менавіта як забаўляльна-кірмашовае перш за ўсё было адзначана прадстаўленне санаторыя "Случ", які так прыгожа адзначыў 20-годдзе свайго існавання.

Першае месца на "Кірмашовым фэсце" было справядліва прысуджана праграме санаторыя "Радон", у якой прыгожай сучаснай мастацкай дэталлю было прадстаўленне льняной моды. На другім месцы аказаліся гаспадары заключнага этапа фестывалю -- працаўнікі санаторыя "Світанак", якія не толькі падрыхтавалі добрую кірмашовую праграму, але і пад непасрэдным кіраўніцтвам галоўнага доктара санаторыя Віктара Міхалевіча выдатна арганізавалі заключнае прадстаўленне фестывалю.

Маладзёжны спеўна-музычны гурт санаторыя "Парэчча" з-пад Гародні стаў трэцім на фэсце, бо ў іх праграме былі і скрыпачка, і дудачка, і агнявы танец цыганачкі. Самымі гарачымі воплескамі ацанілі адпачываючыя высокі мастацкі ўзровень праграмы санаторыя "Сасновы бор" з-пад Радашковіч, у якой былі арганічна спалучаны спевы, музыка і танцы.

**Людміла КАЗЛОВА,**
**намеснік генеральнага дырэктара "Белагразраўніцы"**
**Васіль ЛІЦЬВІНКА,**
**мастацкі кіраўнік фестывалю**

*НА ЗДЫМКУ: выступае фальклорны гурт санаторыя "Парэчча"*





НА ЗДЫМКАХ: прадаўжальнік творчай дынастыі, лаўрэат Міжнароднага



конкурсу Іван КАРЫЗНА; лаўрэаты міжнародных конкурсаў Арцём ШЫШКОЎ ды Уладзімір ДУЛАЎ; музыканты Камернага аркестра; Капэла хлопчыкаў і маэстра Уладзімір ГЛУШАКОЎ.



# ГЛАБАЛІЗАЦЫЯ І КУЛЬТУРА

***Ад заходняй мяжы Беларусі пачынаецца Еўропа. Новая, аб'яднаная. Прастора ў палітычным, эканамічным і культурным сэнсе адзіная. Так, прынамсі, падаецца на першы погляд. Але культура кожнай краіны — гэта складаны комплекс. Сярод яго ных чыннікаў — мова, гісторыя, рэлігія, традыцыйная эстэтыка, выпрацаваная стагоддзямі этыка, мастацтва ва ўсіх формах і праявах. Магчымасць атрымліваць інфармацыю праз Сеціва, шырокая магчымасць вывучэння замежных моў, культурніцкі абмен падвышаюць агульны ўзровень адукаванасці грамадства, пашыраюць светапогляд і разбураюць стэрэатыпы. Але ці дастаткова гэтага для глабальнага аб'яднання культуры? Што ўвогуле нясе глабалізацыя народам і краінам: росквіт праз новы ўзровень кантактаў альбо страту самабытнасці праз нівеліроўку, падгонку пад "еўрастандарт"?***

Летась, 15-17 лістапада ў бельгійскім горадзе Брюге адбыўся першы рэферэндум Еўрапейскага культурніцкага парламенту. Яе арганізатар паставіў умову: кожны запрошаны з 25 еўрапейскіх краін мусіць прадстаўляць толькі самога сябе — не дзяржаву, міністэрства альбо якую іншую арганізацыю. У гэтым ёсць логіка. Калі вы запрашаеце ў госці блізкіх вам па духу людзей, вас жа цікавяць іх развагі, іхнія думкі, а не меркаванні іхняга начальства.

Амаль кожны з удзельнікаў сустрэчы прыехаў са сваім цікавым праектам, а разам вырашалі пытанне: як давесці, што самая мудрая палітыка — гэта Культура, самае ўдалае ўкладанне капіталу — Культура, умова выжывання асобных этнасаў і нацый, а таксама чалавецтва ўвогуле — Культура. Менавіта так, з вялікай літары.

У Брюге знаходзіцца Еўрапейскі каледж, дзе і праходзілі пасяджэнні. Студэнты каледжа падрыхтавалі для ўдзельнікаў сустрэчы петыцыю, у якой прапанавалі абмеркаваць канкрэтныя пытанні культуры і палітыкі. На чым будзе грунтавацца культура ў Аб'яднанай Еўропе? Роля прыватных стасункаў у фарміраванні грамадскай думкі і міжкультурнай гармоніі? Ці павінна творчая асоба ўплываць на палітыку? Ці можа творца быць цалкам незалежным? Ці мусіць уплываць на культуру рэлігія? Як выхаваць новае пакаленне еўрапейцаў на гуманітарных прынцыпах? Як гарантаваць павагу да кожнай рэгіянальнай культуры?

Даволі хутка высветлілася, што ўсе мы, такія розныя — гісторыкі, мастакі, педагогі, пісьменнікі, архітэктары... — да базавых культурных каштоўнасцей ставімся збольшага аднолькава, але кожны перажывае за сваё, роднае, нацыянальнае.

Па інтарэсах удзельнікі сустрэчы падзяліліся на тры групы па тэмах, прапанаваных студэнтамі Еўрапейскага каледжа — "Тоеснасць і шматаблічнасць, палітыка і мастацтва", "Нянавісць і дыялог", "Бізнес і практыцызм". Першую групу ўзначаліў Роберт Пікшт (Германія), другую — Арунас Бекста (Летува), трэцюю — Сіманета Карбанара (Італія).

Я выступіла з прапановаю стварыць Еўрапейскі цэнтр дзіцячай творчасці. Расійская пісьменніца Людміла Уліцкая лічыць неабходным выдаць культурніцкую агульнаеўрапейскую анталогію для дзяцей, аўтарамі якой мусяць быць вядомыя творцы, і вывучаць яе ў школе. Сіманета Карбанара распавядала аб патэнцыяле дызайна для ўсведамлення асабістай свабоды, і адначасова аб аб'ектыўнай залежнасці гэтага віду дзейнасці ад палітыкі, фінансавання, эстэтычных стэрэатыпаў. Мастак са Славакіі Міран Мохан гаварыў аб агульнаеўрапейскім музеі сучаснага мастацтва. Аб гуманізацыі грамадства праз глабалізацыю распавядаў філосаф з Коўна (Летува) Леанід Дорскіс.

Актыўна абмяркоўвалася пытанне элітнага мастацтва. З жалем канстатавалася, што паўсюль мастак залежыць ад палітыкі і эканомікі, а так званая "масавая культура" — паўсюль нізкая.

Вынікам дэбатаў стала думка, што "Культура — ядро грамадства, а творчы патэнцыял — крыніца чалавечага існавання. Еўропа мае патрэбу ў культурніцкім дыялогу, працэс глабалізацыі — у чалавечым фактары".

Мяркую, варта арганізаваць такую ж дыскусію і ў Беларусі. Бо хоць наша грамадства яшчэ не гатова ўспрымаць сябе "у Еўропе", але глабалізацыя — рэальнасць нашага жыцця.

**Ірына КУЗНЯЦОВА,**
**мастак**

ЭСТРАДА

# РАДАВАЦЦА ЗА МАЛАДЫХ

***Нягледзячы на адносна малады ўзрост, сёння Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады — гэта суполка прафесіяналаў, скарбонка талентаў Беларусі. Прызнанне дасягнута дзякуючы творчай упартасці і цярплівасці ўсяго калектыву. Безумоўна, вялікая роля ў станаўленні тэатра належыць і яго цяперашняму мастацкаму кіраўніку, народнаму артысту РБ, прафесару, кампазітару Васілю РАІНЧЫКУ. З ім — наша размова.***

***— Васіль Пятровіч, на вашу думку, ці дасягнуў Маладзёжны тэатр эстрады нейкіх значных вышыняў?***

— Дасягнулі мы вельмі многага. Шмат маладых артыстаў стартавала з нашай сцэны. Праўду кажучы, большасць з іх пакуль што трапляе за мяжу, там яны працуюць. Гэта, напрыклад, такія спевакі, як Вольга Вронская, Андрэй Дзебыш і іншыя. Праходзіць праз усё, што мы з вамі бачым у гэтых тэлеперадачах, інакш немажліва. Я магу прывесці прыклад з вядомымі артыстамі: гэта і Ліка, і Вікторыя Алешка. Ліка была міс-фота СССР, фотамадэль, а Алешка займалася ў школе прыгажосці, мае сертыфікат манекеншчыцы, з ёю працавалі лепшыя дызайнеры і фатографы.

***— Ходзяць чуткі, што вы хацелі б стварыць мюзікл. Ці так гэта?***

— У нас раней быў дзіцячы мюзікл Ірыны Цвятковай "Казачны круіз", які меў вельмі вялікі поспех. Паказы праходзілі пры поўных залах. Але ён грунтаваўся на "Верасятах", а "Верасяты" ўжо выраслі. Наогул, усё, што мы робім, што датычыцца мяне, — гэта бескарыслівая дзейнасць. І наша дзіцячая студыя "Верасяты" была бясплатная. А безумоўна, працаваць з дзецьмі — гэта вельмі і вельмі нялёгка.

***— Што ў гэтым сезоне прапануе Маладзёжны тэатр эстрады?***

— У асноўным выступае моладзь. Прабіцца маладым на вялікую сцэну цяжка, так што мы ім дапамагаем. Тэлебачанне звяртае на іх увагу. Выступаюць юныя артысты, што праходзяць праз фестываль "На скрыжаваннях Еўропы", дзе я, працуючы ў журы, запрашаю ў тэатр выканаўцаў, якія мне спадабаліся. Напрыклад, цяпер у нас працуе Марына Філіпава, на якую я звярнуў увагу менавіта падчас фестывалю. Наша Вікторыя Алешка атрымала спецыяльны прыз TV фестывалю "На скрыжаваннях Еўропы" за еўрапейскі імідж і еўрапейскі фармат, а гэта даволі высокая адзнака.

***— Я чула, што ў сёлетнім сезоне вы зноў шукаеце юныя таленты. Ці паспяхова праходзіць гэта справа?***

— Так, мы сапраўды пастаянна шукаем новыя імёны. Таму што вядома: на Беларусі вельмі добрыя галасы. А новае тысячагоддзе — новыя зоркі. Мы ствараем для кожнага маладога выканаўцы ўмовы для развіцця ягонага таленту, рыхтуем артыстаў-пачаткоўцаў да конкурсаў. І трэба адзначыць, што новая каманда на эстраднай сцэне ўжо паступова фарміруецца. Вельмі шмат прыходзіць да нас юнакоў і дзяўчат. Мабыць, усе яны натхнёныя вядомымі, дзякуючы ТБ, сучаснымі расійскімі праектамі "Фабрыка зорак" і "Стань зоркай". Безумоўна, у нас адбор праводзіцца вельмі сур'ёзны, як мне здаецца, слушны. Нам патрэбныя лепшыя з лепшых, таленавітыя з таленавітых.

***— Ці не плануеце вы стварыць штосьці кшталту расійскіх праектаў?***

— Гэта было б цікава, але ж аднаго жадання тут недастаткова. Наогул, кожны артыст-пачатковец працаў... 

Таксама наш тэатр мае выдатны клоунскі калектыў "Доктар Гумар" пад кіраўніцтвам В. Паніна. Усе яго ўдзельнікі — былыя студэнты Беларускага універсітэта культуры.

***— Якія ў вас планы на бліжэйшае будучае?***

— У мяне ёсць і мары, і планы. Мае мары — ствараць музыку і больш нічым не займацца. А планы — працягваць дапамагаць таленавітай моладзі выяўляць сябе. А радавацца поспехам маладых — гэта вельмі прыемна...

**Наста ЛІТВІН**

*НА ЗДЫМКУ: Васіль ды Сяргей Раінчыкі, Ірына Дарафеева. Здымак 1994 г.*

**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА**



# УЗГАДАЛІ Ў РЫЗЕ

**У 1941 годзе, калі Янка Купала ў складзе дэлегацыі на I з'езд пісьменнікаў Латвіі наведаў Рыгу, Юрмалу, Сігулду, ахова "аберагала" паэта ад кантактаў з тамтэйшымі беларусамі. Але прысутнасць Купалы, Коласа ніколі не згасала ў сэрцах як латышоў, так і іх родзічаў па Бацькаўшчыне.**



**Напрыканцы мінулага года Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" зладзіла літаратурна-музычную вечарыну, прысвечаную 120-годдзю з дня нараджэння нашых класікаў.**

**Старшыня Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі Вячка Целеш да імпрэзы падрыхтаваў паштоўку "Дзьвіна-Даўгава — маці наша (Янка Купала і Яніс Райніс)" паводле сваёй карціны, якую ён падарыў Літаратурнаму музею Янкі Купалы ў Мінску. Фундатарам выдання стаў Канцэрн "Рада" (прэзідэнт Янка Кабановіч). На ёй пазначана: "Кожная купленая паштоўка гэта ўклад у беларускае Адраджэнне ў Латвіі".**

**У імя гэтай святой чыннасці — Адраджэння — была наладжана ўсё тым жа "Сьвітанкам" (старшыня Таццяна Казак) і выстава, прысвечаная 100-годдзю мастака Пётры Міpaновіча, народжанага ў былым Дрысенскім павеце Віцебскай губерні, адразу за Бігосавам — на прыдруйскім беразе Дзвіны. У 1937 годзе П. Мірановіч паспяхова закончыў Рыжскую мастацкую Акадэмію ў годнасці вольнага мастака. Памёр Пётра, сын Тамаша са Стрымкоў, у 1990 годзе ў Нью-Йорку.**

**Сёлета "Сьвітанак" будзе адзначаць сваё 15-годдзе. У планах таварыства многа юбілейных урачыстасцяў, прысвечаных беларускаму Адраджэнню нашых латвійскіх суайчыннікаў.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*НА ЗДЫМКУ: паштоўка Вячкі Целеша.*

# НЕ СПІЦЦА "ВОЖЫКУ" І ЗІМОЙ

**Сустрэчы з чытачамі для супрацоўнікаў часопіса "Вожык" — не рэдкасць. Але асабліва частымі яны сталі падчас правядзення падпісной кампаніі на першую палову 2003 года. Толькі за апошні месяц вожыкаўцы трымалі своеасаблівую справаздачу ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы і бібліятэцы імя Н. Крупскай г. Мінска перад студэнтамі сталічных тэхналагічнага і педагагічнага універсітэтаў, наведалі г. Маладзечна.**

**Якім будзе "Вожык" у 2003 годзе, чым парадуе сваіх чытачоў — пра гэта кожны з прысутных на падобных сустрэчах змог даведацца, як кажуць, з першых вуснаў. Пра рэдакцыйныя планы старэйшага сатырычна-гумарыстычнага выдання рэспублікі распавядалі галоўны рэдактар часопіса Алесь Пісьмянкоў і яго намеснік Анатоль Зэкаў, літсупрацоўнікі Уладзімір Цвяткоў і Павел Саковіч, мастакі Іван Бокій і Павел Шычко.**

**Падчас сустрэч госці чыталі гумарэскі, вершы і пародыі, знаёмілі чытачоў з карыкатурамі, якія неўзабаве ўпрыгожаць часопіс. Жадаючым змаглі падпісацца на "Вожык", а таксама набыць выдадзеную некалі ў яго "Бібліятэцы" кнігу "Сказ пра Лысую гару".**

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

ЮБІЛЕІ

17 студзеня спаўняецца 70 гадоў Міколу Дубоўскаму, самабытнаму празаіку, чалавеку-эрудыту, Галоўнаму Кнігааматару , як жартаўліва называлі і называем мы яго. Сёння кніжны рынак нашай краіны насычаны і перанасычаны, усё запаланілі яркія вокладкі і цьмяныя думкі, і нават цяжка ўявіць сабе той адносна недалёкі час, калі быў "кніжны голад", калі мы "палявалі" на добрую кнігу. О, тыя магічныя словы! "Аб'яўляецца падпіска на акадэмічны збор твораў Антона Чэхава!" "У продаж паступіў Булгакаў — "Мастер и Маргарита"! " Прадаецца "Чорны замак Альшанскі" Уладзіміра Караткевіча!" Толькі такі "наркотык" абагаўлялі і прызнавалі мы!

І вось на гэтых легендарных "кніжных сцяжынках" лёс звёў мяне з Міколам Аляксандравічам. Абаяльны, усмешлівы, заўсёды добразычлівы і разумны, вельмі разумны. Я люблю разумных людзей, і таму пасябраваў з ім. Было шмат сустрэч, размоў, спрэчак... "У кожнага павінен быць свой агеньчык", — запомніў я словы Міколы Дубоўскага.

А потым у газетах, часопісах, выдавецтвах пачалі друкавацца ягоныя апавяданні, аповесці, кніжкі. "Шапэн", "Першая прыступка", "Грымотнае ранне", "Куніца"... На аповесць "Грымотнае ранне" я пісаў рэцэнзію для выдавецтва "Юнацтва". Чым мяне, чытача, бяруць творы Дубоўскага? Жыццёвасцю калізій, вострым сюжэтам, нечаканасцю, якая — як рэзкая ўспышка ліхтарыка ў чарнаце ночы. Усе ягоныя творы пра вайну, рэгіён дзеяння — Заходняя Беларусь. Я назваў бы яго, вядома ж, з пэўнай карэкцыроўкай у маштабах, беларускім Багамолавым. Памятаеце — "У жніўні сорак чацвёртага"?

Вельмі цікавае і няпростае жыццё за плячыма ў юбіляра. 1-га верасня 1939 года, калі першыя фашысцкія бомбы ўпалі на Варшаву, ён пайшоў у першы клас школы ў сваёй роднай вёсцы Самойлавічы, што на Брэстчыне. Унікальнасць самойлавіцкай школы ў тым, што за чатыры гады вучобы ў ёй ( дзесяцігодку Дубоўскі скончыў у суседняй Бярозе ) яна папераменна была польскай, украінскай, беларускай... У гэтым факце, як у суровым бязлітасным люстэрку, увесь наш беларускі лёс.

Скончыўшы Брэсцкі педагагічны інстытут імя Пушкіна па спецыяльнасці "выкладчык беларускай мовы і літаратуры", Мікола Дубоўскі настаўнічаў на Браслаўшчыне, працаваў у Брэсцкай абласной газеце "Заря", у "Чырвонай Змене". А з 1959 года ён, як я ўжо казаў, Галоўны Кнігааматар, а калі сур'ёзна, інспектар, а затым старшы інспектар Рэспубліканскага "Белсаюздруку". І на гэтай пасадзе — аж да пенсіі.

Ён любіць Кнігу. Ён ведае Кнігу. Ён сам піша кніжкі.

Мой мудры і добры сябра, няхай яшчэ доўга кліча цябе ўперад твой агеньчык.

**Леанід ДАЙНЕКА**

НАДРУКАВАНА Ў "ПОЛЫМІ"

"Хмель каля вольхі" — твор Міколы Кусянкова, апублікаваны ў 9-10 і 11-12 нумарах часопіса "Полымя" за 2002 год, хочацца ахарактарызаваць менавіта гэтымі словамі. Бо памянёны раман адначасова і прыгодніцкі, і авантурны. У беларускай літаратуры падобнага кшталту твораў (займальных, цікава напісаных) не так ужо і багата. Прыгадаем тут хіба што аповесць "Палескія рабінзоны" Янкі Маўра, усе без выключэння творы Івана Шамякіна і, можа быць, некаторыя іншыя. Але асабліва важна тут, думаецца, тое, што імі цікавіцца ў першую чаргу юны, малады чытач. Раман М. Кусянкова "Хмель каля вольхі" — магчыма, разлічаны на ўсе ўзросты і розныя катэгорыі чытачоў, — таксама ўзор літаратуры для юных і пра юнацтва. Кожны з нас знойдзе ў ім нешта прыцягальнае для сябе. Успаміны, згадкі... радасныя хвіліны, перажытыя некалі ў мінулым, у маладыя гады, — вось што цікавіць пісьменніка, аўтара рамана. Усё гэта ён і малюе ў сваім творы. Трэба сказаць, што М. Кусянкоў не проста расказвае аб нейкіх падзеях у жыцці кніжных герояў. Ён яшчэ і паказвае нам як бы зрэз эпохі, апісвае і адлюстроўвае сацыяльныя падзеі, жыццё грамадства.

Розныя пераломныя моманты быцця — змена эпох, гарбачоўская перабудова, развал Саюза ССР, "чарнобыльскія" эпізоды, звязаныя з выбухам на АЭС і эвакуацыяй, — усё гэта аўтар рамана асэнсоўвае — і спалучае ў сваім творы з лірычнымі дзённікамі, запісамі герояў наконт важных момантаў іх біяграфій і інш. Форма, у якой персанажы выказваюць свае адносіны да свету і людзей, вельмі нестандартная і, бадай, наватарская для буйнога, аб'ёмнага празаічнага твора. Асабліва для беларускага рамана. Можна сказаць, што "Хмель каля вольхі" — твор, які суадносіцца хутчэй з еўрапейскай літаратурай эпохі класіцызму. Некаму гэтая высنова можа падацца няявычнай, нават парадаксальнай. Але справа ў тым, што раман М. Кусянкова пабудаваны якраз на тых жа прынцыпах, што і творы, скажам, Ж.-Ж. Русо, Грымельсгаўзена, Г. Філдзінга і іншых іх сучаснікаў. Проціпастаўленне станоўчых і адмоўных герояў, пошукі нейкай "абсалютнай" ісціны, прымальнай для ўсіх часоў і народаў, рашучае ўхіленне ад складаных псіхалагічных момантаў — гэта рысы, уласцівыя класіцыцкай літаратуры, раману ў прыватнасці.

Асноўная нагрузка, па сутнасці, пераносіцца на сюжэт. Тут ужо як бы і не да псіхалагічных глыбінь. Героі рамана М. Кусянкова маюць даволі спрошчаны ўнутраны свет... У іншага пісьменніка гэта выглядала б відавочнай заганай. Тут жа мы бачым і пераконваемся, наколькі такі крок аўтара важны, абгрунтаваны. І сапраўды: няма патрэбы ўдавацца ў апісанні псіхалогіі герояў, наколькі гэта абцяжарыла б сюжэт, які разгортваецца надзвычай хутка, нейкімі залішнімі падрабязнасцямі. Між тым падзеі, адлюстраваныя ў рамане, заслугоўваюць значна большай увагі, чым стан душы персанажаў...

А адбываецца ў "Хмелі каля вольхі" тое, што цяжка назваць па-мастацку выдуманым. Бо М. Кусянкоў піша неяк фактаграфічна, ягоны рэалізм вельмі нагадвае дакументальнасць, і "праўдзівасць" усяго твора, трэба заўважыць, — абсалютна натуральная. Толькі праўда, адны факты і больш нічога, акрамя іх — гэта адлюстроўвае і паказвае пісьменнік. Ён выступае як бы летапісцам свайго часу. Праз жыццёвыя біяграфіі герояў рамана "Хмель каля вольхі" ён абмалёўвае характэрныя рысы эпохі. Паказаць час, увасоблены ў людзях, — вось што складае мастацкую задачу аўтара...

Невядома, ці сапраўды падзеі, апісаныя ў рамане, маюць пад сабой рэальны грунт ці рэальную жыццёвую аснову. Безумоўна, гэтая аснова ўгадваецца: магчыма, усё адбывалася з сябрамі, блізкімі знаёмымі ці сваякамі пісьменніка. Але ж прыгодніцкі раман для моладзі (як можна было б вызначыць жанр твора) заўсёды заключае ў сабе пэўную долю фантазіі, выдумкі. Уласціва гэта і раману "Хмель каля вольхі". Расказаная ў ім гісторыя — хутчэй за ўсё, выдуманая ад пачатку і да канца — занадта складаная для таго, каб быць праўдай. Каханне, якое не заканчваецца з гібеллю каханага... Удалыя ўцёкі дэзерціра з войска — зноў жа з-за кахання... Біяграфіі галоўных герояў, цесна звязаныя паміж сабой і шмат у чым падобныя... Нехта з чытачоў назаве гэта мастацкай выдумкай — і, магчыма, не памыліцца. Але трэба ўлічваць тое, на якім фоне разгортваюцца падзеі, апісаныя ў рамане. А фон гэты абсалютна рэальны, праўдзівы і цалкам праўдападобны.

Чарнобыльская зона і яе жыхары; жыццё вёскі і побыт яе насельнікаў; горад з ягонымі спакусамі і недарэчнасцямі; маральна-этычныя праблемы, якія існуюць у разнастайных сацыяльных групах; працэс творчасці і звязаныя з ім акалічнасці; жаночыя лёсы і лёсы іх дзяцей; праблемы і складанасці, якія нясе з сабою надыход старасці, — і многае іншае хвалюе пісьменніка, прымушае яго ўзяцца за пяро. Канечне ж, у празаічным творы "малой" формы (напрыклад, апавяданні) узняць ці закрануць усе гэтыя пытанні было б не тое што складана — проста немагчыма. Выбар жанру рамана робіць М. Кусянкову гонар. Усё ж неабходна мець пэўную смеласць, каб у наш нялёгкі час сесці ды і напісаць раман. Асабліва прысвечаны мноству актуальных праблем, сярод якіх усё ж першае месца займаюць маральна-выхаваўчыя.

Цяжка сказаць, чаму не складваецца жыццё ў галоўнага героя твора — Валіка Мохарава. Здавалася б, якія праблемы могуць быць у талковага і прывабнага хлопца? Да таго ж — моцна любімага сваёй маці і каханага прыгожай дзяўчынай?.. Аднак жа не: не ладзяцца ў яго стасункі з людзьмі. То аднаму ён пяройдзе дарогу, то другому... А тыя, хто хоча і можа яго ўратаваць, чамусьці не вельмі спяшаюцца гэта рабіць. Мауляў, змагайся сам, ратуйся сваімі сіламі. І ў выніку — загубленае жыццё. Кім, чым? Абставінамі? Ворагамі? Самім лёсам (ці Богам)? Пісьменнік не дае адказу на гэтыя пытанні. Знайсці адказ павінен сам чытач. Яго аўтар рамана і вядзе да таго, каб ён хаця б пашукаў адказ, хаця б падумаў над ім. Словам, папрацаваў над развіццём свайго інтэлекту...

Ёсць у рамане ўдала створаныя партрэтныя замалёўкі, цікавыя пейзажныя апісанні, добра, з густам падкрэсленыя дэталі. Так, напрыклад, вочы галоўнага героя пісьменнік малюе як "нябесныя", а сутнасць характару адной з гераінь, яго каханай, найлепей вызначае параўнанне яе са снежнай каралевай. Удала знойдзена і асноўная дэталь, на якой грунтуецца ўвесь твор, — хмель каля вольхі. Гэтыя расліны, хутчэй за ўсё, сімвалізуюць закаханых. Аднак, як заўважае аўтар вуснамі аднаго са сваіх герояў, хмель той віецца заўсёды ў адзін бок і ніколі не наадварот. А значыць (як вынікае з гэтага), свайго лёсу не абыдзеш і на кані не аб'едзеш. Так сцвярджае народная мудрасць. З ёю пагаджаецца пісьменнік...

Пакручастыя лініі сюжэта прымушаюць нас напружана сачыць за ходам дзеяння. Што далей? Што потым? Чаму так, а не інакш? Чытач задае сабе гэтыя пытанні і ўсё больш паглыбляецца ў галаваломку, з якой наўрад ці магчыма выбрацца. Часткі "мазаікі" складзены нагэтулькі дзіўна і няпроста, што разабрацць іх і выбраць асноўную, стрыжнявую, на якой будуецца і на якую нанізваецца ўсё астатняе, не так ужо і лёгка. Што гэта за аснова, вакол якой усё "круціцца"? Можа быць, гэта гісторыя кахання Валіка і "снежнай каралевы"? Ці яшчэ што-небудзь? І зноў пытанні, пытанні, пытанні...

Адно з іх такое: за што героі рамана так не любяць не толькі самі сябе, але і іншых? Чаму яны калечаць і свой лёс, і лёсы сваіх блізкіх? У чым прычына іх няшчасцяў? Псіхалогія ці сацыяльныя ўмовы тут вінаватыя? Аўтар, як выглядае, лічыць, што і першае, і другое разам. Але вынік тут, без усялякага сумнення, адзін: гора, бяда... Страціўшы літаральна ўсё, героі рамана пачынаюць, нарэшце, задумвацца аб прычынах сваіх бедаў. Як шкада, што гэта адбываецца запозна!

**Святлана ЯВАР**

**Напэўна, кожны са знакамітых сёння творцаў можа прыгадаць кола равеснікаў-аднадумцаў, разам з якімі ўваходзіў у літаратуру, тыя пасяджэнні, на якіх чыталіся і абмяркоўваліся новыя творы, вяліся гарачыя спрэчкі і нараджаліся цікавыя праекты... Не мае значэння, як называліся такія суполкі — літаб'яднанні, згуртаванні творчай моладзі альбо літаратурныя клубы. Пакуль будуць з'яўляцца пачынаючыя творцы, будзе існаваць патрэба ў такім коле, у такіх зносінах. Пры газеце "Літаратура і мастацтва" пачало дзейнічаць літаб'яднанне "Літаратурны квартал". Збіраецца яно шточацвер а 18 гадзіне ў рэдакцыі газеты. А плён пасяджэнняў вы зможаце ўбачыць на адпаведнай старонцы "ЛіМа". Сёння — знаёмства з тымі, хто першымі наведалі "Літаратурны квартал".**

*Аксана СПРЫНЧАН*

## ЛіМаніяна

В.

●

*Ты прыходзіш,*
*як "ЛіМ",*
*па пятніцах.*
*Адчуваю*
*крокі слоў у Вечнасць*
*і смеласць,*
*з якою адчыняеш дзверы:*
*— Мой дзень!*
*і мой...*
*І я чытаю твае думкі,*
*і запісваю фіялетавыя літары*
*на фотаздымку ў "ЛіМе"*
*(прабач, белапенны лебедзь*
*вачыма Васіля Драньestablished).*
*У адным з красавікоў*
*іх надрукуюць у газеце,*
*і ты здзівішся,*
*як проста ўсё супала*
*ў маім натхненні —*
*"ЛіМ", пятніца і ты...*
*І яшчэ белыя крылы...*
*І мара, што аднойчы завітала:*
*разгортваць "ЛіМ"*
*штодзень.*

●

*Мне вершы пішуць часцей,*
*чым лісты...*
*А я ўсё ліст ад цябе чакаю*
*(без прачытання вачыма чужымі,*
*пакуль жывая).*
*Чакаю ліст і ў сумоце пішу*
*верш з пачаткам-марай*
*нават самай шчаслівай жанчыны —*
*"Мне вершы пішуць часцей,*
*чым лісты..."*

*Пятніца. Ранак.*
*Паштовая скрынка.*
*Сэрца рвецца верлібрам...*
*"ЛіМ". Вершы твае...*

●

*Кава.*
*Падшыўкі старыя "ЛіМа"*
*вецер са мною разам*
*гартае...*
*Ёсць яшчэ тое,*
*што не знікае.*
*Ёсць ужо тое,*
*што знікне*
*са мною...*

●

*Не выпісваю "ЛіМ",*
*а купляю*
*ў газетным кіёску.*
*І неяк кіяскёрка,*
*у якой*
*(так мне здавалася)*
*няма ні хвіліны,*
*каб за жыццём назіраць,*
*схілілася да акенца*
*і сказала паўшэптам:*
*— Ён прыходзіць*
*менавіта да Вас.*
*Больш ніхто ў гэтым месцы*
*яго не чакае*
*у гэты час.*

●

*Праходжу*
*праз "ЛіМ",*
*як праз свята,*
*16 крокаў.*
*Тут столькі слоў*
*гучыць прарочых.*
*Сваё лаўлю...*

●

*У прозвішчы тваім*
*схаваны*
*"ЛіМ".*
*А ў маім*
*цябе чакае*
*сын.*
*Ды літары нам Лёс*
*перастаўляе,*
*каб сны,*
*як "ЛіМ",*
*па пятніцах*
*чакалі...*

●

*— А што такое*
*лімнада*? —*
*пытаюся*
*у сяброў і знаёмых.*
*І гучыць са здзіўленнем:*
*— Ну што ты, не разумееш?*
*"Літаратура і мастацтва"*
*"надо".*
*І яшчэ больш разумею —*
*трэба!*

*Вольга ГРАЧОВА*

*Аканіцы рыпяць,*
*І вецер, вецер.*
*Дзе ты?*
*Свечкі таюць,*
*Абдымаючы бронзавую вось.*
*Ты пагражаў: "Пайду!"*
*І вось!*



*Цені вялікімі кветкамі*
*Распускаюцца на сцяне,*
*Толькі цяпло агеньчыкаў*
*Не саграваe,*
*І холадна, холадна мне.*

*На Млечны Шлях*
*Адбіткі слядоў сцякаюць слязою.*
*Ты пагражаў: "Вярнуся,*
*І назаўсёды!"*
*Не дазволю!*

## ДАЛЁКАМУ

В.

*Ты...*
*Гукі прыходзяць раніцай,*
*Раствараюцца сонечным пылам*
*у лісці.*
*Я п'ю каву на кухні,*
*І рэхам б'ецца імя тваё,*
*Быццам пульс планеты,*
*Быццам павуцінка ў акне.*

*Ты...*
*Разам з ветрам*
*Праносяцца птахі*
*Тваіх вачэй.*
*Я лаўлю іх вуснамі*
*І адпускаю гэтых дзікіх*
*Закаханых.*

*Ты...*
*Запальваеш сваімі рукамі*
*Начныя агні.*
*І зноў да раніцы*
*У сэрцы маім гадзіннікам*
*Цікаеш,*
*Цікаеш*
*Ты...*

*Німфа азёр і балот.

*Кацярына ЧАРНУШЭВІЧ*

●

*Усе мы толькі часцінкі*
*Вялікай Сутнасці.*
*І не будзе па аднаму*
*У нас ніколі магутнасці.*
*Толькі кропелькі мы*
*У акіяне вялікага,*
*Ды шукаем адказы*
*На ўсё сярод звыклага.*
*Кожны з нас — часцінка зямлі,*
*А толькі не глеба,*
*Кожны — глыток паветра,*
*Ды толькі не неба.*
*Спрачаемся, праўду губляем*
*І ніколі нічога не знойдзем.*
*Галоўнае ведаем разам,*
*А шукаем у адзіноце.*

## ІЗНОЎ НАРАДЗІЦЦА

*Я трымаю ў далонях*
*сэрца,*
*Усміхаюся небу ды зоркам.*
*Хай жа ў памяці ўсё*
*застаецца,*
*Калі нават успомніць і горка.*

*Родным домам хай стане*
*Дарога,*
*А Зямля наша — матухнай*
*роднай.*
*Мне ў сябе ўглядацца, і ў Бога...*
*Назіраць за людзьмі і*
*прыродай...*

## СЁННЯ

*Сёння восень, сёння ціха,*
*Сёння зноў размаўляю з зоркамі.*
*Недзе блізка плача ліха*
*Слязьмі не салёнымі — горкімі.*

*Сёння зноў разважаю аб долі,*
*Разважаю разам з нябёсамі.*
*Чаму людзі не могуць без болю?*
*Чаму забаўляюцца з лёсамі?*

*Сёння ноч, сёння багна,*
*Сёння ўспамінаю гісторыю...*
*Што зрабілі мы з самапавагаю?*
*Што зрабілі мы з роднаю моваю?*

*Сёння зноў я клічу мінулае,*
*Размаўляю з князямі памерлымі.*
*Бачу бітвы, гулянні са шлюбамі*
*І мястэчкі з касцёламі, цэрквамі,*

*Зноў пытаюся ў ціхае восені:*
*"Дзе ўсё тое?*
*І што ў ім тварылася?"*
*Ды ў адказ толькі — неба просінь*
*Ды шаптанне ветра... Забылася...*

*Святлана КАНАНОВІЧ*

## АПОШНІ ДЗЕНЬ

*А. Кохану*

*Дакрануцца да плячэй майго*
*Таленту,*
*Звар'яцеўшы, гарачай рукой?..*
*Ён напуджаны, ён апалены*
*падсвядомай тваёю маной.*

*У што мне верыць...*
*Якому апосталу*
*знічку думкі пакінуць сваю?..*
*Глыбіня, супрацьлеглая*
*мноствамі...*
*Ці нахабнае — "дай, абдыму!.."*

*Мы з'ядналіся верай адзінаю —*
*бог язычніцкі шлях паказаў.*
*А цяпер набягае часінаю —*
*"Ці не ён жа мяне пакараў?"*

*Наталля ДЗЯНІСАВА*

## ЁН І ЯНА

*Ён прыйшоў да яе,*
*Бо нарадзіўся адзінокім,*
*Жыў непатрэбным,*
*Любіў да вар'яцтва,*
*Быў верным навечна,*
*Страціў назаўсёды.*
*Ён стагнаў —*
*Яна плакала...*
*Ён — бяздомны сабака,*
*Яна — аднавокая ноч.*

## ТРЫО ТРЫЯЛЕТАЎ

1.

Тут пахаваны мае пачуванні, —
калісьці жывыя.
Можа, палюбіце вы могілкі
іх навяшчаць.
(М. Багдановіч. З чарнавых накідаў.)

*У роспачы шукаючы прытулку*
*І для душы параненай ратунку,*
*На могілкі пачуццяў завітаю,*
*У роспачы шукаючы прытулку.*
*Там, можа, ачышчэнне атрымаю,*
*Што будзе майго лёсу падарункам...*
*У роспачы шукаючы прытулку*
*І для душы параненай ратунку.*

2.

*Калі непагадзь і самота,*
*То мы толькі глядзім пад ногі.*
*І здаюцца цяжкімі дарогі,*
*Калі непагадзь і самота.*
*Ад няўтульнасці адзіноты*
*Блякнуць зоркі, нябёсы — астрогі:*
*Калі непагадзь і самота,*
*То мы толькі глядзім пад ногі.*

3.

*Як ні крыўдна, а назаўсёды*
*Застанешся былым каханым*
*І не станеш болей жаданым,*
*Як ні крыўдна, а назаўсёды.*
*І не будзе ужо чаканым*
*Тваіх рук палахлівы дотык:*
*Як ні крыўдна, а назаўсёды*
*Застанешся былым каханым.*

# СУСТРЭЧЫ З КАРАТКЕВІЧАМ

Незабыўнай засталася сустрэча ў вёсцы Дубрава, дзе тады жыў. Наведаліся Караткевічы з Рагойшамі, каб напытаць хату для лецішча. Прыехалі на машыне Рагойшы. Не заганяючы "Жыгулі" ў двор, чакалі, пакуль я закончу акучваць у садку бульбу, прыселі на лаўцы. Ул. Караткевіч прайшоў сядзібай да крынічкі ў малінніку, дзе і днём не змаўкалі салаўі, стаў пакурыць на мастку. Калі, навязаўшы спацелага каня бліз крыніцы, падышоў да яго, Ул. Караткевіч весела прадэкламаваў радкі Твардоўскага:

*«Земля в длину и в ширину*
*Кругом своя,*
*Посеешь бубочку одну,*
*и та твоя...»*

Дачытаўшы да слоў "и никакой ни, боже мой, комунии...» — спыніўся, даючы апошняе слова дачытаць мне: "Колхознии!»

Потым Ул. Караткевіч, падмігнуўшы сваёй Валянціне Анатольеўне, нібы пазайздросціў:'

*Живут папаши,*
*Каждый хитр:*
*Землю попашет,*
*Попишет стихи...*

Неўзабаве мы былі на маляўнічым хутары, што за нейкіх кілометра паўтара ад Дубровы, на ўзлеску, ля стаўка і празрыстай халоднай крынічкі, што бруілася іскрыстым вадападам з карчэўя нахіленнай над ім вярбы. Хутар гэты належаў былым перасяленцам з Сандамежа, што разам з асаднікам аселі тут, у былой Заходняй Беларусі, на самай мяжы з СССР. Гаспадар у ім даўно ўжо не жыў, памяняўшы ціхі хутар на весялейшае месца.

Цяпер у здзічэлым садзе, заросшым дзядоўнікам ды крапівою, звінелі, занятыя сваёй справай, пчолы і чмялі, хоць было відаць, што яны не належаць гэтай сядзібе: старыя, сагнўшыя вуллі не маглі даць прытулку руплівым пчолкам і сіратліва дагнівалі пры павеці. З падстрэшша палахліва пазіралі галубы, відаць таксама здзічэлыя без людзей. Склеп пусты і расчынены насцеж. Над ім цягнуць свой пошум векавыя хвоі, ловячы верхавінамі палявы вецер. Хата на замку.

Дача аднак нікому з іх не спадабалася. Караткевічы палічылі месца глухаватым, а сам дом дужа старым, трухлявым. В. Рагойша не ўсхваліў пад'езд — на машыне дабірацца сюды сапраўды блага. Вярнуўшыся крыху расчараванымі з першых агледзін, селі за стол. Прыўзнялі настрой, закусваючы зуброўку паводле рэцэпта Караткевіча і запіваючы яе бярозавым сокам, настоеным на грушах-дзічках па-дуброўску. Акно ў сад было расчынена, праз яго далятаў водар донніка з сядзібнага ўзмежка. Караткевіч прадэкламаваў верш Буніна "Доннік". Мяне дзівіла, як шмат ён ведаў на памяць не толькі нашых класікаў, але і іншых паэтаў.

Ад другой хаты, што агледзелі ў той дзень, уражанне ў абодвух "купцоў" было лепшае. Гэта хата стаяла ў цэнтры Дубравы, побач з разбураным касцёлам, што калісь належаў, як прызнаў Караткевіч, уніятам. У хаце гэтай калісь жыў святар Дзмітрый Сурвіла, але пакінуў яе, перабраўся да дзяцей у Маладзечна.

Хата, як і папярэдняя, была на замку, і пакупнікам карцела даведацца пра яе цану. Але і з суседніх хат людзі не маглі сказаць нічога пэўнага пра кошт. Тады яшчэ паўразбураны склеп — грабніца фундатара касцёла Хмары — мінскага ваяводы — што зрабіў кепскае ўражанне і на Караткевічаў і на Рагойшаў. У склепе датлявалі спаганеныя атэістамі мошчы Хмары і яго сям'і. Караткевіч зрабіў мне заўвагу, калі я ў якасці самазванага экскурсавода пакратаў іх рукамі.

Вяртаючыся да машыны, паўз калгасны сад, які ў жніўні моцна пахнуў антонаўкамі, я прапанаваў гасцям пакаштаваць яблыкаў, але на маю прапанову Караткевіч сціпла адказаў: "Няёмка неяк".

Тым летам я наведаў Мінск, каб здаць у камісійны магазін кларнет. Ён даўно толькі замінаў. Але, на жаль, камісійны, што знаходзіўся непадалёк ад дома, у якім жыў Караткевіч, быў зачынены, і я вырашыў пакінуць да часу інструмент у Сымонавіча.

На мой званок пачуліся ў калідоры павольныя крокі, нібы падыходзіў да дзвярэй нямоглы чалавек. Неўзабаве дзверы расчыніліся, і я ўбачыў гаспадара кватэры. Спакутаваны пацямнелы твар, азызласць шчокаў, паглыбелі маршчакі ля воч і вуснаў. Як і заўсёды, адразу Сымонавіч падаўся на кухню, неяк няўпэўнена тупаючы, каб хлебамсоллю прывецідь госця. Ён цяпер быў у кватэры зусім адзін. Маці памерла, а за ёй неўзабаве і яго Валянціна. Нейк вінавата папярэдзіў мяне, што сам выпіць са мною не можа, бо вось-вось павінна з'явіцца жанчына, яго лечашчы ўрач, якая наконт спіртнога сур'ёзна папярэдзіла. І я адмовіўся ад пачастунка.

Неўзабаве з'явілася доктарка, зрабіла ўкол, змерала тэмпературу, крывяны ціск. На адыход ён загарнуў ёй карабок цукерак. Урач пачала адмаўляцца ад прэзенту, даводзячы, што ад шакаладу жанчыны паўнеюць. А Сымонавіч на яе жарт запярэчыў:

— Жанчыны кажуць так: люблю, калі мяне многа.

Урач не стала больш супрацiўляцца, узяла пакет і пакінула нас.

— Ну, расказвай, як жывеш, што новага? Вершы пішаш? — прысеўшы на тапчан, пачаў распытваць ён.

Я адказаў нешта накшталт таго, што добрыя вершы не пішуцца, а кепскія неахвота пісаць. Ён запярэчыў, што наша беларуская сціпласць шкодзіць нам і ў гэтай справе. Раіў не пакідаць пісаць. Даведаўшыся, па якой патрэбе я завітаў у Мінск і да яго, зразумеў так, што ў мяне стала "туга" падчас лета з грашыма. Стаў прапаноўваць мне грошы.


Міхасёнак глядзіць у паэтычную далячынь. Астатнія занятыя сваімі справамі. Фота і подпіс У. КАРАТКЕВІЧА.

— Разумееш, браце, я стаў даволі багаты. Бачыш, во якую мэблю купіў.

У кабінеце сапраўды з'явілася новая мэбля.

— Я толькі што — працягваў ён, — атрымаў ганарар за кнігу, дарэчы, ты яе яшчэ не маеш, падпішу.

Падаў выдатна афармленую, тоўстую кнігу "Чорны замак Альшанскі". Падпісваючы кнігу, ён усё яшчэ расказваў, што атрымаў грошы за пераклад і за кінафільм. Але пазычаць у яго грошы я ўсё ж адмовіўся.

— Дык прадай мне кларнет!
— Навошта ён вам?
— Буду вучыцца іграць.
— Не, Сымонавіч, не варта хлеб у музыкантаў адбіраць.

Пакінуўшы кларнет, я стаў развітвацца. Караткевіч з цяжкасцю падняўся з тапчана, каб правесці мяне. Бачачы яго знямогу, я запярэчыў. А ён з ноткай віны ў голасе, апраўдваўся, што давялося шмат "пацягацца" разам з аднакашнікамі, што нядаўна былі сабраліся ў сталіцы Украіны з нагоды юбілею універсітэта, па стромкіх узгорках. А перад тым было падарожжа на плытах па рэках Палесся.

Ужо на горадзе ён яшчэ раз зрабіў дарэмную спробу "пазычыць" мне 50 рублёў. Даводзячы ўсё, што ён сапраўды стаў урэшце багатым. Магчыма, пакрыўдзіў добрага чалавека, тым больш, што яго жаданне было вельмі шчырае.

Неўзабаве "ЛіМ" паведаміў, што Яго не стала.

Дараваны надпіс на "Чорным замку Альшанскім", зроблены 6 ліпеня 1984 года, быў, магчыма, яго апошнім аўтографам, як і сама гэта кніга, што выйшла пры яго жыцці.

На памяць мне засталіся і лісты, якіх у мяне не адзін. Адны доўгія, іншыя кароткія, напісаныя спехам, але заўсёды цёплыя, сардэчныя, як і аўтографы, бясконца любыя мне і дарагія.

**Вячаслаў МІХАСЁНАК**

# ЛІСТЫ КАРАТКЕВІЧА

*5 лістапада 73 г.*

Даражэнькі сябра!

Па-першае, я і Адам віншуем цябе і тваю мілую жоначку з кастрычніцкімі святамі. Працуйце, любіце адзін аднаго, жывіце сто год на сваю і на нашую агульную радасць.

Па-другое, павінен я зрабіць Вам выгавар. Не тое каб ад мяне да Вас было бліжэй, чым ад Вас да мяне (гэта толькі ў кракадзіла ў армянскім заапарку ад галавы да хваста тры метры, а ад хваста да галавы — два з паловай, прычым яны ўжо некалькі дзесяцігоддзяў не могуць вырашыць гэтую загадку), а проста Вам часцей даводзіцца бываць у Мінску, і па справах, і па магазінных розных там гісторыях, і калі, скажам, у тэатр выпадае трапіць.

То чаму ніводнага званка? Чаму не спыніцца ў мяне? У мяне цяпер шмат месца. Не ведаю, ці ведаеце Вы (ну і стыль! проста як у некаторых "народных"!), што ў мяне цяпер новая хата, якраз наўскос ад тэатра Купалы.(...)

Патрэбен будзе начлег — лёгка ў мяне зрабіць і гэта.

Па-трэцяе, калі Вы, ды й іншыя, даволі часта бываеце тут, то настаў урэшце час, ды й надвор'е прыперла, — калі нам трэба ўрэшце зноў замяніцца шапкамі з мілым і шаноўным панам дырэктарам, тым больш, што вінаваты ў папярэдняй замене ён і калі замена не будзе, то так мы будзем хадзіць і надалей.


Дырэктар Дуброўскай школы
Паэт Караткевіч, які памерамі галавы можа паспрачацца з любым канём на Дуброўскай стайні. (Подпіс зроблены У. Караткевічам)

Так што калі ласка да мяне ў адведкі ўсіх трох. На гэтым абдымаю Вас моцна, і яшчэ раз жадаю шчасця.

Ваш Уладзімір Караткевіч

•

Дарагі Вячаслаў!

Нешта ты змоўкнуў і вершаў не нясеш. А я дужа хварэў. Месяцы два. Хаця адкажы, калі ласка. І яшчэ напішы, як там. Ці не разладзілася справа з той хатай ля крыніцы і ці ранейшая цана. Калі так — магчыма, будзем суседзьмі.

Твой Уладзімір.
1978 ліпень 17

•

*30 кастрычніка 79 г.*
Даражэнькі Вячаслаў!

Віншую цябе з ранняй зімой (не была б яна толькі жорсткая, а была б мяккая, з цёплымі снягамі, без злых вятроў і лютых маразоў), кожны раз новай. Кожны раз старой нашай настаўніцкай працай, ну і з надыходзячымі святамі, якія ты правядзеш, вядома, на патрэбным высокім узроўні, як то й належыць сапраўднаму беларусу.

Дасылаю табе фоткі, зробленыя ў апошняе наша наведванне. Крыху запознена, але ж ведаеш, два месяцы нас у Мінску не было. Перагледзю іх перад тым, як уклацсі ў канверт і ўспамінаю добрую Вашу хату, добрых людзей у ёй, сабаку ля яе і тое, як ён, вырываючыся ад мяне, рассыпаў твае грыбы. І самі грыбы ўспамінаю: цудоўны лес, узгоркі, валуны на межах. Ці сабака яшчэ ў Вас? Добры сабака, вясёлы. І добра "манціруецца" з хатай.

Там ёсць некаторых па два экземпляры, то падзяліцеся з сяброўкай.

У нас асаблівых навін няма. У Славакіі былі ў Браціславе, у яе наваколлі, ездзілі па свяяках нашага гаспадара і жылі некалькі дзён у гарах, у вясковай (нават, хутарской, бо ўсяго пяць хат) хаце, якую купіла пісьменніца, наш друг, і яе муж, таксама наш друг. Горы вакол. Лясы на іх. Шукаючы грыбы, лезеш, высалапіўшы язык, па строме, а з-пад ног коцяцца, паўзуць, шапяхцяць цэлыя лістапады. Ад сліў аж чорна і жоўта пад дрэвамі. І мы гэтыя слівы збіраем і ссыпаем у бочку, дзе яны будуць кіснуць аж да студзеня. А пасля яны іх здадуць на завод у даліне і за нейкую там невялікую платню выганяць ім з тых сліў цудоўную слівавіцу. Вось з такой працы і нараджаюцца пасля невялікія святы, якія і ёсць жыццё. Працаваў там шмат фізічна, піў і не п'янеў, бо праца і вакол горнае паветра — не надыхаешся.

Пасля два дні Мінск і паехалі ў Піцунду (у Валькі яшчэ быў водпуск), якую я не вельмі люблю: выграваць бакі. А цяпер вось дома і чакае на ўсю зіму "рабочая катарга", якую я вельмі люблю, хаця, пра людскія вочы, і лаю.

А што новага ў Вас? Як здароўе? Работа?

Слухай, Вячаслаў. Жыццё, як табе вядома, стала ў нас не з лёгкіх: есці няма чаго. Ці нельга ў Вас у Дуброве купіць "падхадзячага" кабанчыка, там жа яго забіць, зрабіць кумпякі і кілбасы. Мы б купілі разам з суседзямі, Адамчыкамі і дапамаглі ўсё зрабіць, калі гэта толькі магчыма. Усякую работу па вэнджанні і іншым мы, вядома, таксама аплоцім без крыўды для людзей. І яшчэ: калі мы былі летам у Вас, ты казаў, што ёсць у Вас майстэрня, дзе шыюць прасціны, наўлечкі і пададзеяльнікі, і што можна купіць. Дык Валька зараз купіла б.

Ну вось яны і ўсе нашы справы. Будзе вольны час — адкажы. Бывайце здаравенькі, дарагія. Жадаю Вам усяго-усяго самага найлепшага. Валька таксама перадае Вам прывітанні.

Ваш Ул. Караткевіч

**P.S.** Даражэнькі! Гаварыў з Аўрамчыкам. Вершы твае паставілі былі на № 12, але тут нейкі "вялікі сябар Беларусі" з Украіны прозвішча яго Мікола не назваў (відаць, лаўрэат і дэпутат) даслаў сваю паэму (напэўна ж завершаваную перадавіцу) і маладыя вылецелі з гэтага нумара і ў "Маладосці" і ў "Полымя". Будзеш надрукаваны на пачатку наступнага года. Гэта дакладна.

І яшчэ адно. Глядзеў сёння "Паэтычны слоўнік" В. Рагойшы. Там прыклад на шасцістопны дакціль узяты з тваіх "Хутароў". Слаўны быці пачынаеш.

Ну, яшчэ раз абдымаю Вас.
Уладзімір

**Публікацыя Міхася КАЗЛОЎСКАГА**



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**вул. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**17** — К. Орф "Карміна Бурана",
Ж. Бізе-Р. Шчадрын "Кармэн-сюіта"
**19** — А. Мдзівані "Страсці (Рагнеда)"
**22** — Цырымонія ўручэння спецыяльнай балетнай прэміі "Філіп Морыс — Дэбют",
Ц. Пуні "Эсмеральда"
**24** — С. Пракоф'еў "Рамэо і Джульета"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**вул. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**18** — Бенефіс народнага артыста Беларусі Віктара Чарнабаева
**19** — А. Будзько "Пітэр Пэн"
**21** — Д. Вердзі "Набука"
**23** — Д. Вердзі "Баль-маскарад"
**25** — Д. Вердзі "Трубадур"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл.220-81-26, 220-92-54**

**17, 22-24** — А. Рыбнікаў "Юнона і Авось", рок-опера (прэм'ера)
**18** — У. Кандрусевіч "Мефісто", балет
**19 (раніца)** — С. Баневіч "Трывушчы алавяны салдацік", музычная феерыя
**19** — І. Штраус "Лятучая мыш", аперэта
**21** — І. Штраус "Цыганскі барон", камічная опера
**25** — Л. Мінкус "Дон Кіхот", балет
**26 (раніца)** — І. Левін "Айбаліт-2002", мюзікл для дзяцей
**26** — І. Штраус "Ноч у Венецыі", аперэта

## АФІША СТУДЗЕНЯ

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл.227-17-17**

**17** — М. Манохін "Парфён і Аляксандра", пастараль
**18** — А. Курэйчык "Згублены рай", драма (прэм'ера)
**19** — Далецкія, М. Чарот "Ажаніцца — не журыцца", беларускія вадэвілі
**23, 24** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя (прэм'ера: рэжысёр А. Гарцуеў, у галоўнай ролі — З. Белахвосцік)

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

**17** — Ф. Шылер "Каварства і любоў", мяшчанская драма
**18** — А. Папова "Муж для паэтэсы", камедыя-імправізацыя
**19** — А. Казанцаў "Брат мой, Сіман", драма
**25** — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага,5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

**17** — А. Дудараў "У прыцемках", драма
**18** — "Амфітрыён", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў
**19** — Э. Томпсан "На залатым возеры", меладрама
**22** — А. Копіт "Тата, тата, бедны тата!..", сучасная музычная камедыя
**23** — У. Шэкспір "Трагічная аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага"
**24** — Я. Купала "Раскіданае гняздо", драматычная гісторыя
**25** — Г. Гауптман "Перад заходам сонца", гісторыя дзіўнага кахання (прэм'ера: рэжысёр Б. Луцэнка, у галоўнай ролі — Р. Янкоўскі)

**Малая сцэна**

**24** — Э. Радзінскі, Ф. Дастаеўскі "Рулетка", драма

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-ай, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

**17** — С. Кавалёў "Балада пра Бландою", сцэны нянавісці і кахання
**18** — З. Сагалаў "Палёты з анёлам"
**19** — "Скарб. Нязломны рыцар", польская драматургія на эксперыментальнай сцэне
**21, 22** — С. Кавалёў "Стомлены д'ябал"
**23** — У. Шэкспір "Макбет", трагедыя
**24** — В. Панін "Песні ваўка", драматычна-пластычная элегія

**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даумана,1, тэл. 289-32-62**

**17, 25** — Лопэ дэ Вэга "Вынаходлівая закаханая", камедыя (прэм'ера)
**18** — Б. Шоу "Пігмаліён"
**19, 23** — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне", псіхалагічная драма
**21** — Ж.Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна", камедыя
**22** — П. О. Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара", камедыя
**24** — І. Зінгер, І. Фрыдман "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя

**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр юнага гледача**
**вул. Энгельса, 26, тэл. 226-01-67, 227-39-43**

**18 (а 14-ай гадзіне)** — "Сястра мая Русалачка"
**19 (а 17-ай гадзіне)** — "Залатое сэрцайка"
**21 (а 19-ай гадзіне)** — "Гісторыя любові паласатагаКата і сеньярыты Ластаўкі"

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

**18, 19** — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс
**21, 22** — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя
**25, 26** — С. Бартохава "Поле бітвы", камічная драма

**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"**
**пл. Незалежнасці, 15, тэл. 220-56-32**

**17** — "Дарога ў Вільню", паэтычны монаспектакль (прэм'ера: рэжысёр, выканаўца — Г. Дзягілева)
**20** — Н. Гілевіч "Не праклінай што я люблю", паэтычны монаспектакль паводле рамана "Родныя дзеці"

**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

## У СТАЛІЦЫ

# ДЛЯ ЮНЫХ І ДАРОСЛЫХ



*20 — Зала Беларускай акадэміі музыкі.* **Навучэнцы Рэспубліканскага каледжа пры БАМ іграюць з Акадэмічным сімфанічным аркестрам. Салісты: піяністы К. Жангарава, Н. Паўлоўская, скрыпачы В. Гуцул, В. Трусевіч, кларнетыст В. Бялоў. Дырыжор А. Лапуноў (на здымку). У праграме інструментальныя канцэрты А. Роўлі, М. Бруха, К. М. Вебера, М. Равеля.**

*25 — Зала Рэспубліканскага каледжа пры БАМ.* **Навучэнцы каледжа граюць з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі. Салісты: піяністы Н. Дудко, Н. Літвіненка, валтарніст Э. Ланге, цымбалістка Н. Каракулька, скрыпачка В. Захарошка, альтыст У. Куприянаў. Дырыжор Я. Асновіч. У праграме творы Д. Бартнянскага, В. А. Моцарта, Д. Берыё, П. Стаміца, Ё. Гайдна.**

## РАКУРС АФІШЫ



Некалькі гадоў таму, дзякуючы прадстаўніцтву кампаніі "Філіп Морыс" на Беларусі, з'явілася ў нашым мастацкім жыцці новая традыцыя — прыгожая і плённая для развіцця айчыннай культуры. Кампетэнтнае журы на чале з мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі Валянцінам Елізар'евым паводле творчых вынікаў года вызначае лаўрэатаў прэстыжных прэмій "Філіп Морыс". Ганаровыя лаўры ды прэміі за папярэднія 5 гадоў атрымлівала перспектыўная моладзь, сёння ўжо знаныя салісты Кацярына Фадзеева, Руслан Мінін, Аляксей Турко, Ігар Сядзько, Вольга Гайко. А паводле намінацыі "Жыццё ў мастацтве" (існуе з 2000 г.) — выдатныя майстры Людміла Бржазоўская, Юрый Траян.

Тэатр нядаўна вярнуўся з Кітая, дзе паспяхова выступіў пяты раз, паказаўшы класіку: "Лебядзінае возера" і "Шчаўкунчык". Праца на роднай сцэне пачалася са спектакля "Дон Кіхот". Наступны тыдзень парадуе аматараў балета яшчэ адным класічным творам — "Эсмеральдай". Прычым, паказ адбудзецца з удзелам новых лаўрэатаў спецыяльных прэмій "ФМ", пасля цырымоніі іх узнагароджвання. Так што ўвечары 22-га студзеня паўторыцца знаёмы фотаракурс: урачыстая сцэна, маэстра Елізар'еў, чый удумліва-строгі позірк скіраваны на шчаслівага ўладальніка прыза...

Цікава, хто ж будзе на месцы Вольгі Гайко, пераможцы мінулага конкурсу "Філіп Морыс — Дэбют"?

**С.ВЕТКА**

## ПАДЗІВІСЯ!

Віктар ЧАРНАБАЕЎ — не толькі Асоба ў мастацтве, але й унікальная з'ява. Сорак пяць гадоў на опернай сцэне, прычым да сённяшняга дня — у ролях складаных, адказных, вядучых, — фенаменальны прыклад актыўнага доўгажыхарства саліста-спевака! Падзівіцца на творчы рэкорд старэйшага баса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі, народнага артыста краіны Віктара Чарнабаева, пакланіцца яго артыстычнаму таленту, прафесіяналізму, адчуць абаяльнасць і дасціпнасць гэтай шчодрай, моцнай, каларытнай натуры можна і заўтра: 18 студзеня ў тэатры — "Бенефіс"! Вечар у гонар Спевака і Акцёра.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*НА ЗДЫМКУ: В.ЧАРНАБАЕЎ у ролі Уберта (канцэртная версія оперы "Служанка-пані").*

**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА**








ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8153**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 284-8525**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1646
Нумар падпісаны ў друк 15. 01. 2003 г. у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 106

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12